ПАГОНЯ

Аўторак
18 траўня 1999 г.
№ 34 (411)
Кошт 20.000 руб.

# Хроніка рэпрэсіяў над тымі, хто нагадаў пра свае права выбіраць

**Гродна**

11.10. Арыштаваны сябры ўчастковай камісіі Алесь Барэль, Казімір Локіць, якія на адкрытым участку (вул.К.Маркса) праводзілі выбары. Складзены пратаколы, канфіскаваныя скрыня для галасавання і 500 бюлетэняў. Там жа затрыманы сябры Гарадзенскай гарадской выбарчай камісіі Валянцін Лучко і Мікола Воран, якія прысутнічалі падчас галасавання як наглядальнікі.

11.30. Арыштаваны сябры ўчастковай камісіі Яўген Чыгір і Зміцер Качан, якія на адкрытым участку ў мікраёне Фарты праводзілі выбары. Складзены пратаколы, канфіскаваныя скрыня для галасавання і 66 бюлетэняў. Праведзены вобыск у асабістым аўтамабілі сп.Качана, канфіскаваны 143 бюлетэні. Там жа затрыманы сябра Гарадзенскай гарадской выбарчай камісіі Юрась Мацко і прадстаўнік Хельсінкскага камітэта Аляксандр Парадкаў, якія прысутнічалі падчас галасавання як наглядальнікі.

13.00. На рынку «Паўднёвы» затрыманы сябры ўчастковай камісіі Віктар Сухой і Міхась Чарнушчык, а таксама сябра Гарадзенскай гарадской выбарчай камісіі Пётр Анісімовіч. Складзены пратаколы, канфіскаваныя скрыня для галасавання, 1419 бюлетэняў.

Па тэлефоне рабочыя ГПА «Азот» запрасілі сябраў выбарчай камісіі на прахадную для правядзення галасавання. Выехаўшыя сябры камісіі ўбачылі, што прахадныя перакрытыя нарадамі міліцыі і супрацоўнікамі КГБ. Была спроба затрымання сяброў камісіі.

**Слонім**

11.00. Арыштаваны сябры ўчастковай камісіі Адам Ёрш і Алесь Масюк, якія на адкрытым участку на вуліцы праводзілі выбары. Складзены пратаколы, канфіскаваныя скрыня для галасавання і 200 бюлетэняў.

**Масты**

Затрыманы сябры выбарчых камісіяў Міхась Гладухаў і Язэп Палубятка у час правядзення галасавання. Складзены пратаколы, канфіскавана скрыня для галасавання, а таксама бюлетэні.

**Зэльва**

На кватэру сябра камісіі Юрася Качука, дзе быў наладжаны выбарчы ўчастак, уварвалася сем міліцыянтаў на чале з загадчыкам аддзела райвыканкама па прапагандзе. Былі канфіскаваныя скрыня для галасавання і выбарчыя бюлетэні. Патрабавалі пісаць тлумачэнні, чаму праводзяцца выбары. Далі позву на допыт да следчага.

**Ул. інф.**

# «Бясцэнны дар» - здароўе

**16 траўня ў Гродне адбыўся агульнагарадскі кірмаш здароўя «Бясцэнны дар». Мэта акцыі, арганізаванай абласным цэнтрам здароўя сумесна з упраўленнем аховы здароўя аблвыканкама, — прыцягненне ўвагі да пытанняў здароўя жанчыны, прадастаўленне максімуму інфармацыі пра здаровы лад жыцця.**

Асноўныя дзеянні кірмашу прайшлі ў абласным драмтэатры. У праграму былі ўключаны ўрачэбныя кансультацыі па праблемах здароўя жанчыны, канцэрт, дэгустацыя фітазбораў, тэматычныя конкурсы і вікторыны. Былі таксама падведзены вынікі праводзімых падчас падрыхтоўкі да кірмашу конкурсу «Бабуліны сакрэты здароўя» і конкурсу малюнкаў дашкольнікаў «Мама вачыма дзяцей».

**Ася Куніцкая**




**18 і 19 траўня** - сонечна, месцамі - невялікія дажджы. Вецер паўночназаходні, 3-5 м/с. Тэмпература паветра ўначы +2...+6, удзень +8...+10.

# На выбарах у Гродне перамог Зянон Пазьняк. Аднак Ганчар гэтых вынікаў не прызнае!

**На дзіва, спакойна прайшлі выбары на стацыянарным участку па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, што быў усталяваны ў Гродне па вуліцы Карла Маркса,11. Ужо зранку сюды пачалі наведвацца выбаршчыкі. Людзі ішлі паасобку і сем'ямі, з прыўзнятым святочным настроем. Згодна з працэдурай галасавання, выбарчыя бюлетэні не былі імяннымі. Аднак многія падпісвалі свае бюлетэні, указвалі хатні адрас, нумар пашпарту...**

- Надакучыла баяцца, абрыдла жыць жабраком, - гаворыць пенсіянер Станіслаў Васілеўскі, які прыйшоў на выбарчы ўчастак разам з двума сынамі і ўнукам. - З гэтымі выбарамі я звязваю хоць нейкія спадзяванні на перамены да лепшага. Калі будзем сядзець склаўшы рукі, то хутка зусім гаплаць будзем.

Раз-пораз перад выбарчымі скрынямі ўтваралася чарга. З тых рэплікаў, якімі абменьваліся людзі, было зразумела, што гэта іх усвядомлены выбар, што гэта людзі неабыякавыя, што ім баліць за Беларусь.

Падчас галасавання участак наведаў дзяжурны міліцэйскага пастарунку сп. Сітнікаў разам з нарадам. Міліцыянты спрабавалі навязаць сябрам камісіі сваю «ахову», матывуючы гэта тым, што ў міліцыю патэлефанаваў невядомы і пагражаў «кінуць ва ўчастак гранату». Сябры камісіі адмовіліся ад такой «аховы».

Акрамя працы на гэтым участку выбарчыя камісіі працягвалі праводзіць галасаванне па кватэрах. І вось тут не абышлося без перашкодаў. Ва ўсіх інтэрнатах дзяжурылі супрацоўнікі міліцыі. Уваход у інтэрнаты па загаду з выканкама «з-за выбараў» быў абмежаваны. Супрацоўнікі міліцыі ў цывільным пільна сачылі за прахожымі на ўсіх прыпынках, рынках, у людных месцах. Па некаторых дадзеных з адпачынку былі адкліканы ўсе супрацоўнікі МУС, у Гродна былі сцягнутыя сілы міліцыі з іншых гарадоў вобласці.

...У вызначаны законам тэрмін адбыўся падлік галасоў, на якім прысутнічаў ваш карэспандэнт. Як высветлілася, у галасаванні на гэтым участку прыняло ўдзел 1774 чалавекі (згодна з інфармацыяй сябраў выбарчай камісіі, ў Гродне 16 траўня было арганізавана 20 выбарчых участкаў). Галасы размеркаваліся наступным чынам: за Пазьняка - 1003 галасы, за Чыгіра - 627. Несапраўднымі прызнана 19 бюлетэняў. Нечакана вялікай была колькасць людзей, якія галасавалі супраць абодвух прэтэндэнтаў на высокую пасаду, - 125! Сярод іх знайшоўся і такі, хто на бюлетэні зрабіў прыпіску: «Я люблю Лукашэнко».








Варта адзначыць, што згодна з афіцыйнымі тлумачэннямі Цэнтрвыбаркама, выбары на стацыянарных участках будуць прызнаныя несапраўднымі. Паводле Віктара Ганчара, улічвацца будуць толькі вынікі, атрыманыя пры абходзе кватэр.

**Ул. інф.**

**На здымках: Так галасавалі гарадзенцы на выбарах 16 траўня па адрасе Карла Маркса, 11**

# Едуць на практыку за Ла-Манш і Атлантыку

**У гэтым годзе каля 100 студэнтаў Гарадзенскага сельскагаспадарчага інстытута пройдуць практыку за мяжой. Але калі раней яны набіраліся розуму ў Германіі, Польшчы, Швейцарыі, то цяпер да гэтых краін далучыліся Вялікабрытанія і ЗША.**

Падобная практыка стала магчымай у 90-я гады. І цяпер у інстытуце дзейнічаюць самастойнае падраздзяленне - аддзел знешніх сувязяў. Узначальвае яго дацэнт кафедры абароны раслін Аляксандр Свірыдаў. У свой час ён стажыраваўся ў Бонскім універсітэце. Ён добра ведае ангельскую мову. Прадастаўляем яму слова.

- Нашы студэнты маюць унікальную мажлівасць вывучаць за мяжой навейшыя тэхналогіі сельскагаспадарчай вытворчасці, наладжваць дзелавыя і сяброўскія кантакты, удасканальваць моўную падрыхтоўку, непасрэдна пазнаёміцца з культурай іншых народаў. Толькі за 1995-1998 гады ў Германіі прайшлі практыку 100 чалавек, у Швейцарыі - 17 і ў Польшчы - 111 студэнтаў. Перад заканчэннем практыкі студэнты афармляюць справаздачу на мове той краіны, якую наведвалі. Пасля паспяховай абароны ім выдаецца сертыфікат праходжання практыкі міжнароднага ўзору.

У гэтым годзе з 60-ці студэнтаў, якія пажадалі паехаць у англамоўныя краіны, толькі палова пераадолела моўны бар'ер. Натуральна, што да конкурснага адбору студэнтаў не допускаюцца «троечнікі», а нехта па маральна-этычных меркаваннях атрымлівае адстаўку: у інстытуце дбаюць і аб прэстыжы беларускага студэнта як грамадзяніна. Застаецца ў сіле і такая ўмова: з'яўляецца мажлівай толькі адна замежная камандзіроўка за час навучання ў інстытуце. Паказальна і тое, што пры адборы студэнтаў-практыкантаў абавязковы ўдзел прадстаўнікоў замежных фірмаў.

За сваю стыпендыю студэнт далёка не заедзе. Аднак фактычна практыка ўтрымліваецца за кошт прымаючага боку. Праўда, Англія і ЗША патрабуюць ад студэнтаў значных папярэдніх выдаткаў. Каб выехаць, напрыклад, у Англію, трэба мець пры сабе 350 даляраў: плата за страхоўку, візу і дарожныя білеты. Такса Амерыкі яшчэ вышэйшая. Але гэта - не перашкода. Ужо таму, што студэнт «сваё» возьме і за Ла-Маншам, і за акіянам. Практыка ў ЗША - гадавая. Адпаведна ўмовам кантракту, студэнт будзе атрымліваць за гадзіну пяць даляраў, а працаваць яму належыць 8-10 гадзін у суткі. І гэта, паводле словаў Аляксандра Свірыдава, не варта расцэньваць як заробак. Як ён выказваецца, гэта «кішэнныя грошы», прадугледжаныя прымаючым бокам. І калі быць аб'ектыўным, то некаторыя нашы студэнты пасля замежных камандзіровак абзаводзяцца іншамаркамі... Але гэта іх праблемы. Што да інстытута, то ён зацікаўлены ў дадатковай адукацыі, прафесійным і культурным росце сваіх студэнтаў. І гэтая мэта дасягаецца.

Выезд чатырох студэнтаў у ЗША чакаецца напрыканцы чэрвеня. На практыку ў Англію паедуць 20 студэнтаў, дожыцца яны будзе ад чатырох да шасці месяцаў. Палова студэнтаў гэтай групы ўжо вымушана размаўляць па-ангельску і выконваць «урокі» сваіх настаўнікаў. Такі ж лёс чакае і тых, хто толькі рыхтуецца складаць рэчы ў чамаданы...

**Вадзім Жураўлёў**





# Ацэнка Зянонам Пазьняком прэзыдэнцкіх выбараў 16 траўня



16-га траўня 1999 года па Закону меліся адбыцца выбары Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Кіраўніцтва Цэнтральнай Выбарчай Камісіі (старшыня В.Ганчар) насуперак Закону аб'явіла выбары 6-га траўня і заплянавала праводзіць іх 10 дзён шляхам пакватэрнага абходу выбаршчыкаў са скрынямі для галасаваньня.

Мэханізму ўсеагульнага 10-дзённага галасаваньня з пакватэрным абходам няма ў беларускім заканадаўстве. (Кіраўніцтва ЦВК падтасавала палажэньні Закону, якія датычаць толькі асобных катэгорыяў выбаршчыкаў, што могуць прагаласаваць раней). Гэта грубае парушэньне закону «Аб выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь».

Гэтакім жа антызаконным мэтадам у 1996 годзе Лукашэнка праводзіў антыпраўны рэфэрэндум, які не прызнала міжнародная супольнасьць.

Беларускіх выбаршчыкаў (і мяне як кандыдата) уцягваюць у безадказную, дрэнную справу.

На працягу 9-га - 10-га траўня я меў шэраг тэлефонных размоваў з кіраўнікамі раённых выбарчых камісіяў. (Апытаныя дзесяткі раёнаў па ўсіх абласьцях). Высьветлілася, што амаль нідзе на гэты час пакватэрнае галасаваньне не праводзілася (акрамя Дзятлаўскага і Лунінецкага раёнаў). Амаль нідзе няма сьпісаў выбаршчыкаў. Нідзе ня створаны ўчастковыя выбарчыя камісіі. Толькі ў палове гэтых раёнаў ёсьць скрыні для галасаваньня і менш чым у палове раёнаў ёсьць выбарчыя бюлетэні. (На 20 апытаных мною раёнаў - 18 тысяч бюлетэняў). Такая сытуацыя, фактычна, па ўсёй Беларусі. Па краіне рэальна прагаласавала на гэты час - самае вялікае - некалькі дзесяткаў тысячаў выбаршчыкаў. Тым часам, 10-га траўня кіраўніцтва ЦВК афіцыйна паведаміла, што за чатыры дні па Беларусі прагаласавау адзін мільён 379 тысячаў выбаршчыкаў). Тое, што такая колькасьць прагаласаваўшых у прынцыпе немагчымая (гэта немажліва зрабіць), даказваецца нават простым арыфмэтычным дзеяньнем, калі падзяліць гэтыя адзін мільён 379 тысячаў на рэальную колькасьць выбарчых групаў, што ходзяць па кватэрах. Участковых камісіяў практычна не існуе, а на аснове тэрытарыяльных камісіяў (1621 чалавек у 172-х камісіях) можна стварыць ня болей, чым 810 групаў (па два чалавекі), а фактычна значна менш. У рэальнасьці працуе невялікая колькасьць людзей.

11-га траўня лічбу прагаласаваўшых павялічылі да аднаго мільёна 752 тысячаў (22,8 адсоткаў), 12-га траўня - да двух мільёнаў 494 тысячаў прагаласаваўшых (32 адсоткі).

Ідзе нахабная фальсіфікацыя галасаваньня з боку кіраўніцтва ЦВК. Даюцца фантастычна павялічаныя, неіснуючыя лічбы прагаласаваўшых. Адбываецца цынічны, адкрыты падман грамадскасьці і крымінальнае парушэньне Закону.

Тыя сябры Народнага Фронту, якія ўвайшлі ў выбарчыя камісіі, выказваюць абурэньне дзеяньнямі кіраўніцтва ЦВК і адмаўляюцца працаваць у камісіях.

Я неаднаразова пісьмова зьвяртаўся да кіраўніцтва ЦВК з патрабаваньнем выконваць Канстытуцыйнае заканадаўства аб выбарах. Аднак мае звароты не былі прынятыя пад увагу. Цяпер выбары ператварылі ў крымінальную авантуру, у ашуканства, зь якім можна параўнаць толькі лукашэнкаўскія «рэфэрэндумы».

Усё гэта непрымальна для мяне як кандыдата ў Прэзыдэнты і палітыкі. Гэтым сьведчу, што адмаўляюся ад удзелу ў сумніўных выбарах і здымаю сваю кандыдатуру.

Зьвяртаюся са шчырай падзякай да выбаршчыкаў, што хацелі галасаваць за мяне, да ўсіх сяброў Народнага Фронту, што зьбіралі подпісы за маю кандыдатуру.

Я б ня раіў беларускім выбаршчыкам удзельнічаць у гэтым ненармальным галасаваньні, каб ня стаць ахвярамі і саўдзельнікамі ашуканства.

Сябрам Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» прапаную спыніць усялякі удзел у выбарчай кампаніі, дзе чыніцца крымінал.

**Зянон Пазьняк, Старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»**
**13 траўня 1999 г.**

***P.S.:*** ***Мне неаднаразова даводзілася казаць пра палітычны зьмест цяперашніх выбараў і мэты іх сапраўдных арганізатараў.***

***Пра плянуемую выбарчую авантуру з удзелам М.Чыгіра я пісаў яшчэ ў сакавіку 1998 году (гл. газэту «Навіны», арт. «Вяртаньне БНР»), а калі праз год яна рэальна ўзьнікла, акрэсьліў яе мэты ў артыкуле «Прамаскоўскі праект», які быў надрукаваны ў пачатку сакавіка гэтага году ў розных газэтах. Сутнасьць маскоўскага выбарчага праекту - стварэньне «сваёй» прарасейскай (маргінальнай) апазыцыі Лукашэнку ў Беларусі і палітычнае зьнішчэньне Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне».***

***Грошы на выбары ў Беларусі (пад М.Чыгіра) выдаткавалі маскоўскія бізнэсовыя і палітычныя колы. Цяпер вядомая сума гэтых грошай, арганізацыі, палітычныя спонсары і асобы, што стаяць у канцы ланцужка. Непасрэднымі выканаўцамі заказу зьяўляюцца былы прэм'ер ураду Лукашэнкі М.Чыгір і былы віцэ-прэм'ер гэтага ўраду В.Ганчар. Абодва непасрэдна паспрыялі прыходу Лукашэнкі да ўлады ў 1994 годзе. Абодва потым апынуліся за яе бортам.***

***В.Ганчар павінен быў арганізацыйна забясьпечыць выбраньне М.Чыгіра на Прэзыдэнта.***

***Абодва гэтыя спадары пачалі ўгаворваць мяне балатавацца на выбарах, бо без Народнага Фронту, маўляў, выбары не арганізуеш. Ня ўдзельнічаць у гэтай справе было больш небясьпечна, чым удзельнічаць. У выпадку нашага няўдзелу майстры дэмагогіі, выкарыстаўшы антылукашэнкаўскія настроі («абы зваліць») і велізарныя грошы з Масквы, маглі б дэзарыентаваць грамадзкую думку і раскалоць структуры Фронту.***

***Я пагадзіўся ўдзельнічаць у выбарах пры адной умове, што ўсе дзеяньні В.Ганчара як кіраўніка ЦВК будуць строга адпавядаць закону «Аб выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь». В.Ганчар гарантаваў гэтыя ўмовы. Але потым законнасьць парушалася ім неаднаразова. Праект ажыцьцяўляўся сваёй чаргой.***

***Адразу пасьля рэгістрацыі кандыдатаў была ажыццёўлена «пасадка» М.Чыгіра пад арышт. М.Чыгір сядзіць разам з двума бізнэсмэнамі ў чатырохасабовай камэры, глядзіць партатыўны тэлевізар і чакае свайго часу. Пасьля 16-га траўня, калі спадар Ганчар зробіць тры з паловай (а то і чатыры) мільёны прагаласаваўшых і аб'явіць пераможцам «вязьня сумленьня» М.Чыгіра, тады па ўсёй Беларусі (і па ўсім сьвеце) павінна пачацца рушэньне «Свабоду Чыгіру», «Прэзыдэнт за кратамі», - застракацяць загалоўкі газэт. Гэта стане пастаяннай інфармацыйнай тэмай. Выцікі яе - вызваленьне М.Чыгіра ды іншых - я не апісваю, бо ў мяне ўзьнікае ўражаньне, што складалі гэты праект маскоўскія кінасцэнарысты ці ўвогуле - літаратары, прадаўжальнікі творчасьці Ільфа і Пятрова. Нахабства і размах фальсіфікацыі - уражваюць.***

***Сябры Народнага Фронту выходзяць з выбарчых камісіяў, бо ня могуць удзельнічаць у незаконнай, нячыстай, антыбеларускай справе. Ставіцца пытаньне аб адказнасьці В.Ганчара. Але да гэтага можна будзе вярнуцца ў іншых умовах.***

***Выцікі гэтых «дзіўных» выбараў (як іх ужо назвалі на Захадзе), ня будуць прызнанымі ні Беларускім Народным Фронтам «Адраджэньне», ні міжнароднай супольнасьцю, ні беларускім грамадзтвам.***

# У праве голасу адмовілі

**Больш за 30 беларусаў, якія прыехалі ў Брусель з розных гарадоў Бельгіі — Антверпена, Гента, Намюра ды іншых — пікетавалі 14 траўня амбасаду Беларусі ў бельгійскай сталіцы.**

Удзельнікі акцыі, арганізаванай брусельскім офісам Хартыі'97, патрабавалі адкрыць на тэрыторыі амбасады 16 траўня выбарчы ўчастак, дзе прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Бельгіі змаглі б узяць удзел у прэзідэнцкіх выбарах. Як паведамілі у прэс-цэнтры Хартыі'97, у петыцыі, перададзенай супрацоўнікам беларускай амбасады, утрымлівалася таксама патрабаванне вызваліць у Беларусі палітзняволеных і спыніць рэпрэсіі ўладаў у дачыненні прадстаўнікоў апазіцыі.

Аналагічная акцыя, таксама наладжаная супрацоўнікамі брусельскага офісу Хартыі'97, прайшла днямі ў Боне. Пікетчыкі ля сцен беларускай амбасады ў Германіі патрабавалі спынення рэпрэсій у Беларусі і адкрыцця ў пасольстве выбарчага ўчастка. Аднак спроба перадаць беларускаму амбасадару петыцыю з гэтымі патрабаваннямі не мела поспеху.

**Юрый Аляксеяў**

# Фронт на ростанях

**Намеснік старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі назваў галоўнай прычынай адмаўлення Зянона Пазьняка ад удзелу ў прэзідэнцкіх выбарах не лепшую арганізацыю гэтай кампаніі і спробы маніпуляцыі лічбамі.**

«Напрыклад, нам дагэтуль, нягледзячы на ўсе просьбы, не прадастаўлены пратакол аб выніках збору подпісаў па вылучэнні кандыдатаў у прэзідэнты па Менску. І я ведаю прычыну — справа ў тым, што сума галасоў за абодвух кандыдатаў на 22 тысячы перавышае суму галасоў, якая была сабрана па раёнах горада», — сказаў Л.Баршчэўскі. Тым не менш ён адзначыў, што да апошняга моманту спрабаваў угаварыць Пазьняка не адмаўляцца ад удзелу ў выбарах, чым можа выклікаць расчараванне і апатыю ў прадстаўнікоў апазіцыі, якія актыўна працавалі падчас перадвыбарчай кампаніі і ўскладалі на яе вялікія спадзяванні. Да таго ж, віну за зрыў выбараў зараз можна будзе поўнасцю перакласці на Беларускі Народны Фронт, які зрабіў львіную долю працы.

На думку Баршчэўскага, лепш было б у рамках закона працягваць удзел у гэтай кампаніі і пасля яе заканчэння ацаніць увесь працэс і яго вынікі з пункту погляду выканання заканадаўства. Кіраўніцтва БНФ вырашыла не склікаць нечарговага сойму, які б адклікаў актывістаў арганізацыі са складу камісій па выбарах прэзідэнта і адначасова асудзіла спробы ціску асобных функцыянераў фронту на прадстаўнікоў некаторых камісій. Разам з тым, намеснік старшыні БНФ не бачыць магчымасці для нармальнага правядзення выбараў і падліку галасоў ва ўмовах, калі адзін з кандыдатаў за два дні да іх заканчэння зняў сваю кандыдатуру, а некаторыя тэрытарыяльныя камісіі на месцах склалі паўнамоцтвы.

Лявон Баршчэўскі лічыць, што там, дзе выбары ўсё ж адбудуцца ў поўнай адпаведнасці з законам, яны пакажуць тэндэнцыю — якая колькасць людзей гатова ўзяць удзел у галасаванні за абранне новага прэзідэнта. І першыя вынікі ўжо гавораць аб тым, што 56—57 працэнтаў не адмаўляліся браць удзел у выбарах, нягледзячы на ціск антырэкламу ў падкантрольных уладам СМІ.

«Выбары яскрава паказалі, што беларускае грамадства чакае зьмяненняў, але яшчэ не выпрацавала адзінай іх канцэпцыі і механізму рэалізацыі», — сказаў Баршчэўскі.

# Юлія Чыгір: «Не дачакаюцца»

**Жонка кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Міхаіла Чыгіра Юлія заявіла, што рашэнне Зянона Пазьняка аб зняцці сваёй кандыдатуры, безумоўна, на руку беларускім уладам.**

На думку Юліі Чыгір, З.Пазьняк, знаходзячыся за мяжой, значна адарваўся ад беларускіх рэалій і не разумее, што «ў гэтай сітуацыі мы павінны былі быць разам. У выбарах, што праводзяцца ў такіх умовах, не можа быць пераможцы. Але прадэманстраваць міжнароднай супольнасці жаданне народа перааб-раць кіраўніка краіны мы былі павінны».

Аб зняважлівых падозрах, выказваемых на адрас яе мужа, якога Зянон Пазьняк называе «стаўленікам расійскіх спецслужбаў», а яго арышт ацэньвае як перадвыбарчую «раскрутку», умовы ў турме разглядае амаль як камфортныя і гэтак далей, Юлія Чыгір сказала, што гэта выклікае ў яе вялікае шкадаванне, аднак яна не будзе публічна сварыцца з Пазьняком, даючы задавальненне іхнім агульным праціўнікам. «Не дачакаюцца, — сказала жонка Міхаіла Чыгіра — шкада, што Зянон гэтага не разумее».

Тым не менш, яна адзначыла, што апошнім часам надзвычай супадаюць заявы А.Лукашэнкі і З.Пазьняка. Юлія Чыгір выказала здагадку, што сваё рашэнне лідар БНФ прыняў пад уплывам пэўных людзей, звязаных са спецслужбамі прэзідэнта Беларусі.

**Генадзь Барбарыч**

# «Не прападёт наш скорбный...»?

**16 траўня старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Віктар Ганчар сустрэўся з кіраўніком групы Парламенцкай Асамблеі АБСЕ па Беларусі Адрыянам Северынам. Сустрэча праходзіла ў офісе кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Менску.**

Як паведаміў прэс-сакратар Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Аляксандр Коктыш, размова ішла наконт выбараў, якія праходзяць у рэспубліцы і пра тое, ці будуць іх вынікі прызнаны сусветнай супольнасцю. Пры гэтым А.Северын адзначыў, што, незалежна ад таго, будуць прызнаны вынікі выбараў ці не, сам факт правядзення выбараў і іх вынікі без увагі не застануцца. Па словах А.Коктыша, падчас сустрэчы абмяркоўвалася таксама пытанне аб неабходнасці наладжвання дыялогу паміж беларускімі ўладамі і апазіцыяй.

Сам Віктар Ганчар у інтэрв'ю карэспандэнту паведаміў, што «сустрэча насіла закрыты характар, была прысвечана магчымым юрыдычным і палітычным выцікам выбараў, іх наступствам, а таксама развіццю сітуацыі ў краіне з 16 траўня па 20 ліпеня і пасля 20 ліпеня».

Нагадаем, што ў гэты дзень 1999 года канчаецца тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі.

**Генадзь Барбарыч, Вячаслаў Будкевіч**

# У Мастах адбыўся хапун

**Падчас выбараў Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь міліцыі давялося добра папрацаваць, але нягледзячы на яе тытанічныя намаганні, сарваць выбары ёй не ўдалося.**

У горадзе на дзень галасавання былі створаны два выбарчыя ўчасткі на кватэрах сябра БНФ «Адраджэнне» Міхаіла Гладухава і старшыні мясцовых сацыял-дэмакратаў Язэпа Палубяткі. Актыўна ўдалося папрацаваць міліцыянтам і пры папярэднім галасаванні. Некалькі дзён запар ім давялося зрываць са сценаў агітацыйныя матэрыялы і затрымаць аднаго з яго распаўсюджвальнікаў - Міхаіла Гладухава.

З 18 гадзінаў 15 траўня міліцыянты перайшлі на баявое дзяжурства, ля кожнага выбарчага ўчастка ў засадзе было па тры аўтамабілі з супрацоўнікамі органаў, якія заставаліся на працягу ўсёй дажджлівай ночы.

Пачатак галасавання быў прызначаны на сем гадзін раніцы. Але за дзесяць хвілін да гэтага ў дзверы кватэраў пастукалі чатыры міліцыянты ў штацкім адзенні ды двое панятых з ліку сутачнікаў. Міліцыянты запатрабавалі добраахвотна здаць усе матэрыялы, якія датычаць выбараў Прэзідэнта РБ. Па гэтых дзеяннях быў складзены пратакол.

І надалей міліцыянты дзейнічалі апеератыўна, калі праз некаторы час Язэп Палубятка зайшоў да Міхаіла Гладухава, то туды патэлефанавалі з РАУС і папрасілі абодвух зайсці ў аддзел. За выпадковаю машынай, што падвезла іх да РАУС, неадкладна паехала міліцыя.

У аддзеле з Гладухава і Палубяткі былі ўзяты тлумачэнні ды складзены пратаколы аб адміністрацыйных парушэннях па артыкулу 167-3, які прадугледжвае пакаранне да дзесяці мінімальных заробкаў ці да двух месяцаў папраўчых работ. Для мастоўскіх міліцыянтаў справа напісання падобных пратаколаў новая, а пратакол на Міхаіла Гладухава давялося нават перапісваць.

І надалей міліцыянты несупынна неслі дзяжурства ля выбарчых участкаў ды каля дома аднаго з сябраў БНФ «Адраджэнне».

Нягледзячы на ўсё гэта, выбары працягваліся шляхам абходу кватэраў як у горадзе, так і ў вёсцы.

**М.Карпейчык**

# Арыфметыка па Ганчару

**Паводле інфармацыі Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, з 6 па 16 траўня ў прэзідэнцкіх выбарах узялі ўдзел 4 мільёна 7 тысяч 302 выбаршчыкі, альбо 53,1 працэнта грамадзян, унесеных у спісы для галасавання.**

Па абласцях сітуацыя складваецца наступным чынам: Менск —58,9; Менская вобласць — 55,7; Віцебская — 52,5 працэнта; Гродзенская — 52,3; Гомельская вобласць — 50,8 працэнта; Магілёўская — 50,6 і Брэсцкая вобласць — 50,1 працэнта.

У прэс-службе Цэнтральнай камісіі таксама паведамілі, што ў апошнія суткі супрацоўнікамі праваахоўных органаў па ўсёй рэспубліцы было затрымана каля ста актывістаў выбарчай кампаніі.

**Юрый Пацёмкін**

# Кірмаш самацветаў

**З 12 па 16 траўня ў Сенатарскай зале Новага замка праходзіла міжнародная выстава «Свет самацветаў».**

І хоць гэта ўжо не першая такая імпрэза ў горадзе (не так даўно падобны кірмаш праходзіў у галерэі «У Майстра»), яе арганізатары самі не чакалі такога вялікага наплыву наведвальнікаў і патэнцыяльных пакупнікоў. Усе пяць дзён, што доўжылася выстава, у невялікай Сенатарскай зале не было дзе яблыку ўпасці . Гэта стварала і пэўныя складанасці для пакупнікоў. Каб добра прыгледзецца да піцерскіх багатых стразаў, апалаў, ізумрудаў у высокамастацкіх срэбраных аправах, трэба было вельмі актыўна папрацаваць лакцямі. Не спешчаная шыкоўным бляскам дарагіх камянёў, гарадзенская публіка ішла ў Новы замак з акрэсленымі мэтамі: не столькі каб палюбавацца на калекцыйныя ўзоры мінералаў, а каб набыць натуральныя ўпрыгожванні.

Натуральныя камяні, як высветлілася, не меней, а можа, і болей папулярныя, чым традыцыйныя для нас залатыя, сярэбраныя і мельхіёравыя ланцужкі і бранзалеткі. Апошнім часам папулярнымі сталі тэорыі пра ўплыў камянёў на чалавека і нават пра іх гаючыя ўласцівасці. Беларускія майстры-каменярэзы прапаноўвалі багаты выраб амулетаў, кулонаў з задыякальных камянёў разам з іх характарыстыкамі. Адэская дэлегацыя прывезла цудоўныя вытанчаныя ўпрыгожванні з яшмы, тапазаў, малахіту.

Сапраўды, магічная прыцягальнасць матава-мігатлівых, бліскучых, шурпатых камянёў вабіць чалавека, асабліва жанчын. Проста немагчыма не набыць хоць маленечкі каменьчык. Да таго ж, выбар і ўпрыгожванняў, і сувеніраў быў багаты.

За дзве ўмоўныя адзінкі можна было набыць каралі з аванцюрыну, каралаў, гранатавыя завушніцы. За 15-30 у.а. прапаноўвалі шыкоўныя пярсцёнкі з камянёў экзатычна вялікіх памераў, наборы з завушніц, кольцаў ды іншае.



Мір самацветаў заваражвае наведвальнікаў

У апошні дзень кірмаша мінералагічных кампазіцый стала значна менш. Ад'ехаў прадстаўнік з Заіра са сваімі шыкоўнымі малахітавымі табакеркамі і пірамідкамі. Раскупілі цудоўныя недарагія бурштынавыя цуды. Дарэчы, бурштын здзівіў сваёй каляровай разнастайнасцю: ад цёмна-карычневага да сонечнага.

У фае перад залай гарадзенскі школьны гемалагічны клуб «Карат» наладзіў сваю выставу, якая дастойна выглядала побач з адэскімі, разанскімі, піцерскімі куткамі. Усе мінералы, з якіх юнакі вырабілі аздобы для гадзіннікаў, пано, сувеніры, яны самі прывезлі са штогадовых падарожжаў за Урал.

На будучую восень плануецца другі міжнародны мінералагічны кірмаш.

**Алеся Макавецкая**

# Амбасада ЗША на Беларусі ўводзіць працэдуру звароту за візамі паводле папярэдняй дамоўленасці

З першага чэрвеня 1999 года консульскі аддзел Амбасады ЗША на Беларусі будзе праводзіць прыём дарослых (ад 16 і старэйшых) грамадзянаў Беларусі, якія звяртаюцца за неімігацыйнай ўязной візай ЗША, паводле папярэдняй дамоўленасці. Пачынаючы з указанага дня, прыём па пытанню выдачы неімігацыйнай візы будзе магчымы толькі ў заранёў прызначаны час. Для таго, каб прызначыць час прыёму, належыць звярнуцца ў Амбасаду, маючы пры сабе свой пашпарт і пашпарты ўсіх членаў сям'і ці калегаў, з якімі яны плануюць накіравацца ў ЗША. Прызначыць час інтэрв'ю можна двума тыднямі раней. З прычыны таго, што ў аўторак, першага чэрвеня, прыём наведвальнікаў будзе весціся паводле папярэдняй дамоўленасці, Амбасада пачне выдачу квіткоў з указаннем даты і часу інтэрв'ю з панядзелка, 24 траўня. Любыя выключэнні ў новай працэдуры будуць рабіцца толькі на індывідуальнай падставе і ў выпадку наяўнасці доказаў тэрміновасці.

Квіткі з указаннем часу прыёму будуць выдавацца штодня па працоўных днях з 9.00 да 17.00 у консульскім аддзеле Асмбасады.

Асобы, якія звяртаюцца за прызначэннем часу прыёму для сваіх сяброў, сваякоў ці калегаў ды іх суправаджаючых, павінны мець пра сабе на момант звароту пашпарты ўсіх дарослых (ад 16 гадоў і старэйшых), што маюць патрэбу ў візе. Пашпарты павінны быць сапраўднымі для замежных паездак.

Указанае новаўвядзенне не датычыць асобаў, што едуць у складзе груп у пяці і больш чалавек, а таксама звяртаюцца за візамі тыпу L-I (перавод на іншае месца працы ў межах кампаніі-працадаўцы) і R-I (рэлігійная дзейнасць); указаныя катэгорыі асобаў могуць звярнуцца ў консульскі аддзел у любы дзень у другой палове дня, і ім будзе прызначаны спецыяльны час.

Старая працэдура звароту за візамі будзе дзейнічаць па чацвер, 27 траўня. Новая працэдура дазволіць консульскаму аддзелу апрацоўваць большую колькасць заявак з большай зручнасцю для наведвальнікаў.

Для таго, каб атрымаць дадатковую інфармацыю, належыць патэлефанаваць у Амбасаду ЗША на нумар (017) 231-50-00 і папрасіць праслухаць запіс інфармацыі аб парадку звароту і выдачы візаў.

# Аляксандр Дубко змяніў пасаду

**Так, прынамсі, лічыць інфарматар гарадзенскага стадыёну «Нёман». На пачатку футбольных гульняў ён падбадзёрвае заўзятараў і футбалістаў інфармацыяй пра тое, што «сегодня на матче присутствует губернатор Гродненской области, Герой Социалистического Труда Александр Дубко».**

Не бяру пад сумнеў працоўнае геройства і любоў да спорту з боку Аляксандра Іосіфавіча, але што да «губернатарства»... Не ведаю, ці цешыць гэты «тытул» вушы старшыні аблвыканкама і ці наколькі ён сам гарыць жаданнем ператварыцца з аднаго з самых уплывовых людзей краіны ў аднаго з некалькіх дзесяткаў губернскіх начальнікаў новай Расійскай імперыі.

Час і дзеянні пакажуць. Але пра адну рэч спадару Дубко варта задумацца ўжо зараз. Калі меркаваць па млявай рэакцыі футбольных фанаў на прысутнасць «губернатара» на стадыёне, былой вялікай папулярнасці ў гарадзенцаў Аляксандр Дубко ўжо не мае. А губернатарская пасада ў Расіі - выбарная, у адрозненне ад пасады старшыні аблвыканкама ў Беларусі. Дык што - гайда ў губернатары, Аляксандр Іосіфавіч?

**В.Дрэма**

# У палёце «Беркут»

**Пяты год на тэрыторыі Беларусі праводзіцца конкурс «Беркут» з мэтай выяўлення месцазнаходжанняў і аховы рэдкіх відаў птушак.**

Неабходнасць гэтага конкурсу тлумачыцца тым, што сёння некаторыя віды птушак знаходзяцца на мяжы знікнення. У мінулыя гады энтузіясты выявілі і перадалі пад ахову абласным камітэтам прыродных рэсурсаў некалькі дзесяткаў раней невядомых вучоным гнездаванняў рэдкіх птушак, у тым ліку і беркута, змеяеда, скапы, але ўсе яны знойдзены на поўначы рэспублікі, у Віцебскай вобласці. У той час, як на астатняй тэрыторыі паселішчы птушак, занесеных у Чырвоную кнігу Беларусі, практычна невядомыя. Цяпер масівы лясоў, дзе яны сустракаюцца, высякаюцца. У выніку змяняюцца і месцазнаходжанні рэдкіх відаў птушак.

Мы просім грамадзянаў, хто ведае месцазнаходжанне гнёздаў ці калоніяў рэдкіх птушак, не ўзятых пад ахову ў інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, паведаміць да першага ліпеня 1999 года (са схемай размяшчэння гнязда ці фотаздымкам дрэва з гняздом птушкі і яго дакладнымі каардынатамі) у Аргкамітэт, пазначыўшы на канверце «На конкурс «Беркут-99».

Наш адрас: ЗБТОП, вул.Суворава, 23-7, г.Гродна, 230001.

За кожнае паведамленне пра гняздоўе будуць уручаны прызы ў памеры ад 10 да 50 у.а. Прэміі будуць выплочвацца ў беларускіх рублях па курсу Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

**Святлана Адамовіч**

# «Інтэграцыя» - шлях у бездань

**«Інтэграцыя» сёння адыгрывае ролю ранейшай палітыкі інтэрнацыянальнай дапамогі, братняй падтрымкі свабодалюбівых народаў, барацьбы за мір і прагрэс, словам, замяняе звыклую палітыку рускай экспансіі на землі суседзяў і каланізацыю нацменаў (нацыянальных меншасцяў).**

Ужыванне гэтага тэрміну ў двукоссі абумоўлена тым, што агульнапрыняты змест гэтага навуковага паняцця цалкам адрозніваецца ад таго зместу, які закладзены беларускім і расійскім кіраўніцтвам у сваю палітыку адносна дачыненняў паміж краінамі былога СССР. Гэтак сама, камунізм у тэорыі - грамадства ўсеагульнай роўнасці і справядлівасці, а на практыцы - палітыка масавага знішчэння людзей, якія замінаюць камуністам утрымліваць уладу. Так і з інтэграцыяй, якая тлумачыцца як узаемадзеянне: яна на практыцы азначае палітыку перашкоды новым дзяржавам, былым савецкім рэспублікам, усталяваць свой суверэнітэт і падмацаваць яго ў сферах эканомікі, абароны, культуры, дыпламатыі-выведкі і г.д. Стратэгічная мэта «інтэграцыі» - аднавіць поўны кантроль з боку Крамля на ўсім абшары былога сацыялістычнага лагера, а па магчымасці - «памыць боты ў Індыйскім акіяне», паводле вобразнага выказвання Жырыноўскага, г.зн. набыць новыя тэрыторыі і падпарадкаваць новыя народы.

## «Інтэграцыя» - гэта няволя

Відавочна, што «інтэграцыя» ёсць палітыка, накіраваная супраць праяваў нацыянальнай адрознасці нярускіх народаў. Пакольскі натуральным саюзнікам нацыянальнай свядомасці выступае дэмакратыя, цывілізаваныя свабоды, то «інтэграцыя» робіцца самым заклятым ворагам дэмакратыі і цывілізацыі як унутры краіны, так і за яе межамі. «Інтэгратары» шукаюць хаўрусу з ворагамі дэмакратыі па ўсім свеце, незалежна ад таго, па якіх ідэалагічных прычынах тыя паспрачаліся з краінамі дэмакратычнага ўладкавання.

Развіццё ўсведамлення нацыянальных інтарэсаў былымі прыгнечанымі народамі - гістарычная непазбежнасць. Каб спыніць гэты натуральны працэс, «інтэграцыя» патрабуе ўсё большага ўціску правоў і свабод грамадзянаў, усталявання ўсеагульнага вышуку, стварэння індустрыі прапаганды. Гэтыя задачы выконваюцца пры дапамозе ўсталявання драконаўскага заканадаўства, а пры неабходнасці - ужываннем пазапраўных мераў ды ігнараваннем юрыдычных працэдураў і нормаў права.

## «Інтэграцыя» - гэта галеча

Натуральная і эфектыўная рынкавая эканоміка патрабуе ад кожнага народа засяродзіцца пераважна на сваіх праблемах, асабліва, калі справа тычыцца знішчаных крызісам постсацыялістычных краінаў. «Інтэграцыя» спрабуе перашкодзіць працэсам фармавання нацыянальных рынкаў і навязаць свае эканамічныя зносіны паміж метраполіяй і былымі калоніямі. Так, яскравым прыкладам з'яўляецца пастаўка рыбы з Далёкага Усходу Расіі пры наяўнасці блізкага і таннага рынку рыбных прадуктаў краін Балтыйскага мора.

Эканоміка «інтэгратараў» не вытрымлівае здаровай канкурэнцыі з-за сваёй неэфектыўнасці, патрабуе вялікіх мытаў на імпарт, не дазваляе падвысіць заробкі працоўным. Велізарныя сродкі выдаткоўваюцца «інтэгратарамі» на забеспячэнне сваіх экспансіянісцкіх мэтаў. Гэта не дазваляе падвысіць дабрабыт народа, замацаваць эканамічную свабоду для вытворцаў і гандляроў, развіваць эканоміку на карысць народа. Адсутнасць дэмакратыі, законнасці, грамадскага кантролю за дзейнасцю ўлады і суб'ектаў гаспадарання вядзе да разгулу карупцыі, хабарніцтва, клянавасці, ценявой эканомікі і звязаная з гэтымі фактарамі злачыннасці, якая робіцца значным чыннікам дзяржаўна-грамадскага жыцця.

## «Інтэграцыя» - гэта пагроза міру

Зразумела, што знешняя палітыка «інтэгратараў» накіравана на супрацьстаянне носьбітам дэмакратыі, рынку і нацыянальнай свядомасці. Змаганне з імі пад сцягам «інтэграцыі» прадукуе міжнародную напружанасць з дэмакратычнымі краінамі, якія бароняць свае каштоўнасці перад экспансіяй «інтэгратараў». Апошнія імкнуцца перашкодзіць постсацыялістычным краінам далучыцца да здабыткаў цывілізацыі, імкнуцца захаваць іх у зоне свайго ўплыву. «Інтэграцыя» - гэта перш за ўсё знешнепалітычны прымус, апора на гвалт і пагрозы. Гэта непазбежны шлях да новай канфрантацыі, перш за ўсё у Еўропе, да халоднай вайны з Амерыкай. Гэта - пагроза міру.

**Сяргей Самасей**

# Прафесійныя хваробы на паперы і ў жыцці

**У межах Гарадзенскай вобласці дзейнічае сем ільноперапрацоўчых прадпрыемстваў. Пры гэтым 546 чалавек з 990 працуюць ва ўмовах кантакту са шкоднымі вытворчымі фактарамі. Гэта пацвярджаецца вынікамі апошняй праверкі, якую арганізаваў абласны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі.**

- Афіцыйна прафесійных захворванняў няшмат, - кажа загадчыца аддзялення гігіены працы Марыя Сахарава. - За два апошнія гады выяўлена толькі два такія выпадкі: на Слонімскім прадпрыемстве -глухата, а на Дзятлаўскім - хранічны бранхіт. У гэтай галіне галоўнымі шкоднымі вытворчымі фактарамі з'яўляюцца шум ад тэхналагічнага абсталявання і запыленасць працоўных месцаў. Фактычна ж захворванняў больш, аднак людзі не звяртаюцца ў медычныя ўстановы, тым больш, што прафзахворванні фіксуюцца толькі ў Менску і Гродне. Агульнае захворванне людзей з часовай стратай працаздольнасці на ільноперапрацоўчых прадпрыемствах у 1,3-2,4 раза вышэй, чым у сярэднім па вобласці.

За 1998 год на паляпшэнне ўмоваў працы на ільнозаводах выдаткавана 2,4 мільярда рублёў, у тым ліку ў ААТ «Ашмяны-лён» - 783 мільёны рублёў, ААТ «Слонім-лён» - 950 мільёнаў, «Смаргонь-лён» - 328 мільёнаў рублёў. Але і сёння 60 працэнтаў персаналу на ільнозаводах вобласці працуюць ва ўмовах павышанай запыленасці.

**Вад Айдараў**

# Распрадажа павінна пачацца першага чэрвеня

**Калегія Міндзяржмаёмасці прыняла рашэнне выставіць для продажу на Беларускай валютна-фондавай біржы па аднаму працэнту дзяржаўных акцыяў 110-ці адкрытых акцыянерных таварыстваў.**

Няўжо на Беларусі ўзнікне рэальны фондавы рынак у сувязі з рашэннем калегіі Міндзяржмаёмасці? Вядома ж, не. Папросту ўладам зноў не хапае сродкаў. Яны будуць знойдзены, як лічыць Савет Міністраў, шляхам продажу аднаго працэнта дзяржаўных акцыяў акцыянерных таварыстваў. Сярод іх - акцыі Менскага маргарынавага завода, Брэсцкага таксаматорнага парку, прадпрыемстваў ПМК, акцыі чатырох камбікормавых заводаў ды іншыя.

Міндзяржмаёмасць лічыць, што кацiроўкі акцыяў з'явяцца ўжо першага чэрвеня бягучага года. Аднак малаверагодна, што за апошнія два-тры тыдні ўдасца вырашыць усе пытанні, звязаныя з неапрабаванай пакуль што ў Рэспубліцы Беларусь працэдурай продажу каштоўных папераў, якія належаць дзяржаве, на фондавай біржы. Паводле меркаванняў спецыялістаў, больш рэальныя тэрміны пачатку таргоў - 20 ліпеня-10 жніўня бягучага года.

Аднак, на нашу думку, галоўным будзе не час пачатку продажу акцыяў, а тое, як будзе разлічваецца стартавы кошт акцыі, і ці магчыма пераацэнка «балансавай вартасці». У выніку адмены ў 1999 годзе абавязковай пераацэнкі, набытыя ў 1997 годзе акцыі прадпрыемстваў сталі стратнымі на 450 працэнтаў (у сярэднім), і гэта з улікам дывідэндаў...

Зразумела, у тым ліку і для Міндзяржмаёмасці, што належыць мяняць парадак, які сябе «не апраўдаў». Хто будзе купляць у бягучым годзе акцыі прадпрыемстваў па кошту, напрыклад, у чатыры мільёны рублёў (за адну акцыю), каб пасля мець магчымасць у 2001 годзе прадаць яе па цане ў пяць мільёнаў за акцыю. Бо толькі на інфляцыі за два гады з дзяржаўных разлікаў губляецца 260 працэнтаў рэальнай вартасці акцыяў. А ў валютным эквіваленце? Калі сёння чатыры мільёны рублёў - гэта 10 даляраў ЗША, то ў 2001 годзе пяць мільёнаў рублёў альбо, скажам, шэсць-сем мільёнаў можа каштаваць адзін «Вашынгтон».

Акрамя распрацоўкі і ўдасканалення методыкі продажу акцыяў ды іншых каштоўных папераў, што ўплываюць на кошт апошніх, дзяржаве неабходна праводзіць новую эканамічную палітыку. Чым далей будуць адкладацца эканамічныя (палітычныя ў тым ліку) рэформы, тым танней будуць каштаваць акцыі айчынных прадпрыемстваў. І тады аднаго працэнта акцыяў «з малатка» дзяржаве, а менавіта «вертыкальным» уладам, не хопіць для падтрымання штаноў без рэмня. Можа стацца, што кароль усё-ткі голы...

# Хто ж будзе інвестарам?

**З 26 па 29 траўня ў сталіцы Швейцарыі - Жэневе - адбудуцца 4-я Міжнародная выстава і канферэнцыя «Новыя рынкі» ці «ЭМА-99».**

Арганізатарамі мерапрыемства выступаюць Сусветная асацыяцыя агенцтваў садзеяння інвестыцыям, Фонд новых рынкаў пры падтрымцы Фонда СОФІ (Швейцарская арганізацыя садзеяння інвестыцыям), а таксама Арганізацыя Аб'яднаных Нацыяў па прамысловаму развіццю. Мэта выставы і канферэнцыі - дапамога краінам з пераходнай эканомікай у пошуку новых дзелавых партнёраў, наладжванні кантактаў і ўмацаванні інвестыцыйнага супрацоўніцтва з вядучымі кампаніямі і фінансавымі інстытутамі Еўропы.

Калі Беларусь напраўду з'яўляецца краінай з пераходнай эканомікай, то дзейнасць Беларускага агенцтва садзеяння замежным інвестыцыям (БАСЗІ) заслугоўвае ўхвалення. Менавіта БАСЗІ выступае асноўным каардынатарам па арганізацыі ўдзелу айчынных вытворцаў у выставе-канферэнцыі «ЭМА-99». На жаль, з мэтай эканоміі сродкаў БАСЗІ плануе прадставіць інвестыцыйныя праекты беларускіх прадпрыемстваў на калектыўным стэндзе, а так у цэлым Беларусь, можа, і зрушыцца з апошняга месца ў Еўропе па інвестыцыях у эканоміку краіны за кошт «ЭМА-99».

Галоўнымі інвестарамі на Беларусі зараз з'яўляюцца: «Coca-Cola» і «McDonalds». Астатніх інвестараў пакуль што на гарызонце не відно. Застаецца толькі задаць пытанне: «Хто ж будзе наступным інвестарам на Беларусі?». Мо «Pepsi» ?! Ці скранецца ўсё-такі цягнік з месца? Да пачатку «ЭМА-99» засталіся лічаныя дні.

**Кацярына Зволін**

# Рынкавы сацыялізм скончыцца на Беларусі ў XX стагоддзі?

**У адпаведнасці з артыкулам 27 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь і падначаленых яму дзяржаўных органах», Прэзідыум Савета Міністраў разгледзеў і ўхваліў распрацаваную Міністэрствам эканомікі праграму, якая прадугледжвае ў 1999-2000 гадах правядзенне паэтапнага скарачэння перакрыжаванага субсідзіравання ў паліўна-энергетычным комплексе.**

Праграма мае на мэце павысіць канкурэнтназдольнасць беларускай прадукцыі, абмежаваць марнатраўнае і нерацыянальнае выкарыстанне энергіі насельніцтвам, павысіць эфект цеплафікацыі ў энергасістэме рэспублікі, які апошнім часам знізіўся з-за адмовы прамысловых спажыўцоў ад цэнтралізаванага цеплазабеспячэння. У выніку рэалізацыі гэтай праграмы будзе зведзена на нішто асноўная заваёва рынкавага беларускага сацыялізму - практычна бясплатныя камунальныя паслугі.

Праграма прадугледжвае давядзенне напрыканцы 1999 года ўзроўня кампенсавання насельніцтвам выдаткаў за карыстанне прыродным газам да 70 працэнтаў, звадкаваным газам - да 95 працэнтаў, электраэнергіяй - да 80 працэнтаў, цеплавой энергіяй - да 30 працэнтаў. Шырокамаштабнае падвышэнне коштаў на камунальныя паслугі пачнецца ўжо ў траўні. У выніку плата за карыстанне электраэнергіяй і газам для сярэднестатыстычнай сям'і з трох чалавек, што пражываюць у кватэры плошчай трыццаць квадратных метраў, складзе ў чацвёртым квартале 916 тысяч рублёў. Пры гэтым Савет Міністраў і Міністэрства эканомікі зыходзілі з «прагназуемага» на пачатку года ўзроўня інфляцыі ў 50 працэнтаў гадавых і сярэдняга курса беларускага рубля ў 178 тысяч рублёў за даляр ЗША, тады як на пачатак траўня гэтыя лічбы выглядаюць наступным чынам: 130 працэнтаў як мінімум - гадавая інфляцыя і 500 тысяч рублёў за даляр ЗША да канца года - курс беларускага рубля. Калі дадаць сюды яшчэ падвышэнне мінімальнага заробку ў траўні, а магчыма, яшчэ і ў кастрычніку да двух мільёнаў рублёў; можна зрабіць выснову, што плата за карыстанне электраэнергіяй і газам сярэднестатыстычнай сям'ёй будзе напрыканцы года значна большай - 916 тысяч рублёў, якія прадугледжаны праграмай развіцця...

Да канца 2000 года Савет Міністраў мае намер перакласці на плечы насельніцтва 100 працэнтаў выдаткаў на прыродны і звадкаваны газ і электраэнергію, да таго ж 40 працэнтаў выдаткаў на цеплавую энергію. У 1999 годзе канцэрн «Белпаліўгаз» плануе атрымаць ад насельніцтва дадаткова 7,5 трыльёна рублёў, канцэрн «Белэнерга» - 8,8 трыльёна рублёў.

Такім чынам, напрыканцы XX стагоддзя Беларусь вырашыла скончыць з амаль бясплатнымі камунальнымі паслугамі. На наш погляд, гэта досыць правільнае і даўно неабходнае рашэнне. Сам комплекс камунальнай гаспадаркі не можа развівацца, калі аплата за месяц, напрыклад, за гарачую ваду менш за кошт адной шрубкі на кране. Іншая справа, калі да канца 2000 года сярэднемесячны заробак па рэспубліцы па-ранейшаму будзе складаць 23 даляры ЗША. Каму тады будзе патрэбна падвышэнне аплаты за камунальныя паслугі? Грамадзяне папросту не будуць плаціць... Неабходна як мінімум наблізіцца да ўзроўня аплаты працы 1994 года (далукашэнкаўскага ўзроўня) - у сярэднім 100 даляраў ЗША ў месяц. Калі лепш да ўзроўня сярэднемесячнага заробку Літвы - 206 даляраў, Польшчы - 435 даляраў ці Эстоніі ў 410 даляраў ЗША. Вось тады і можна будзе плаціць трэцюю частку заробку за камунальныя паслугі.

**Сяргей Міронаў**

# Гэта ж колькі зубоў трэба «аддаць» за атэстацыю...

**18-19 траўня Менскі інстытут удасканалення ўрачоў плануе сабраць прыватных стаматолагаў з усёй краіны. Зубныя ўрачы будуць мець магчымасць навучыцца рабоце з новай медычнай дакументацыяй (так сказана ў запрашэнні інстытута на семінар), праслухаць лекцыю галоўнага стаматолага краіны П.Леуса пра «перспектывы развіцця прыватнай стаматалогіі ў Беларусі» і такім чынам яшчэ больш удасканаліць сваё майстэрства.**

Праўда, урачоў турбуе тое, што семінар каштуе 49 мільёнаў рублёў - а гэта, у пераліку на звыклыя для ўрачоў тэрміны, 35-40 вылечаных зубоў, альбо паўтары-два месяцы працы. З прычыны вялікага памеру сумы ўрачы хацелі б дэлегаваць на семінар аднаго ўдзельніка ад дзесяці стаматолагаў. Замінае тое, што пасля семінару адбудзецца атэстацыя і выдача пасведчанняў. Што азначаюць гэтыя «атэстацыя і выдача», урачы не ведаюць ды асцерагаюцца, што потым іх запатрабуюць у абавязковым парадку.

Давядзецца, мабыць, ехаць...

**Б. Кашталян**

# Курсы валют

**На 17 траўня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют.**

Даляр ЗША — 248.000 беларускіх рублёў. Еўра — 264.492,00. Нямецкая марка — 135.235,61. Расійскі рубель — 9.950. Украінская грыўня — 63.216,93. Аўстрыйскі шылінг — 19.221,38. Брытанскі фунт стэрлінгаў — 400.259,60. Італьянская ліра (за 100 адзінак) — 13.659,87. Французскі франк — 40.321,55. Швейцарскі франк — 165.036,27. У параўнанні з пятніцай, 14 траўня, афіцыйны курс даляра ўзрос на 1.000 рублёў.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 17 траўня даляр куплялі па 425.000—430.000 і прадавалі па 435.000—440.000 рублёў. У параўнанні з пятніцай, курс узрос у сярэднім на 10.000 рублёў.

**Дзмітрый Уласаў**

# Да нас ізноў едзе МВФ

**18 траўня ў Менск прыбывае місія Міжнароднага валютнага фонду, якая будзе знаходзіцца ў рэспубліцы да 28 траўня.**

Чакаецца, што напрыканцы месяца да працы місіі далучыцца дырэктар другога еўрапейскага дэпартамента МВФ Джон Одлінг-Смі. У перыяд з 24 па 26 траўня паміж прадстаўнікамі МВФ і беларускім кіраўніцтвам павінны прайсці сустрэчы на вышэйшым узроўні.

Падчас працы ў Менску экспертаў МВФ будзе абмяркоўвацца магчымасць далейшага правядзення перамоваў па пытанні прадастаўлення Беларусі крэдыту ў межах кампенсацыйнага надзвычайнага фінансавання, памер якога можа скласці каля 100 млн. даляраў ЗША.

**Аляксандр Паповіч**

# «Дэлойт і Туш» расставіла банкі па рэйтынгу

**Беларускае прадстаўніцтва міжнароднай кансалтынгавай і аўдытарскай карпарацыі «Дэлойт і Туш» (Deloitte & Touche) падрыхтавала спецыяльны незалежны агляд банкаўскай сістэмы Беларусі.**

Як паведаміў генеральны дырэктар прадстаўніцтва Юрый Сідаровіч, у першую чаргу агляд прызначаны для замежных кліентаў і прадстаўляе сабой пададбенства рэйтынгу дзейнасці беларускіх банкаў, аднак поўнасцю такім яго назваць нельга, паколькі «Дэлойт і Туш» не з'яўляецца рэйтынгавай кампаніяй і не робіць уласных ацэнак. Пры складанні агляду ўлічваліся асноўныя фінансавыя статыстычныя паказчыкі дзейнасці банкаў — капітал, актывы, прыбытковасць, ліквіднасць і г.д.

Улічваючы пастаянную цікавасць з боку кліентаў да стану і дзейнасці беларускіх банкаў, у прадстаўніцтве «Дэлойт і Туш» плануюць складаць узгаданы рэйтынг на рэгулярнай аснове, зрабіўшы яго для пачатку штоквартальным. Свой першы незалежны агляд банкаўскай сістэмы рэспублікі ў беларускім офісе «Дэлойт і Туш» плануюць канчаткова завяршыць і абнародаваць у бліжэйшыя некалькі тыдняў.

Урэшце, наконт таго, у якім выглядзе ён будзе выдадзены на публіку канчаткова ў кампаніі яшчэ не вызначыліся. Паколькі беларускія банкі занадта розныя, не выключана, што рэйтынг будзе ўключаць толькі дзесятку буйнейшых крэдытна-фінансавых установ Беларусі.

Акрамя таго, у планах беларускага офіса «Делойт і Туш» —правядзенне восенню 1999 года рэспубліканскай міжбанкаўскай канферэнцыі — накшталт той, што штогод праводзіцца ў Ялце (Украіна).

**Аляксей Арэшка**

# Нацбанк зноў рэгламентуе

**Курс куплі-продажу замежнай валюты за кошт асабістых сродкаў фізічных асобаў з аплатай у безнаяўнай форме не можа адрозніваецца больш чым на 20 працэнтаў ад курсу куплі-продажу замежнай валюты за кошт асабістых сродкаў фізічных асобаў з аплатай у наяўнай форме.**

Такое рашэнне прыняло праўленне Нацыянальнага банка Беларусі «у мэтах далейшага развіцця ўнутранага валютнага рынку, а таксама ў межах захадаў, накіраваных на пераход да адзінага курсу беларускага рубля да замежных валют». Устаноўлена, што дадзеная форма не распаўсюджваецца на здзелкі куплі-продажу, якія ажыццяўляюцца ў адпаведнасці з Палажэннем аб парадку ўчынення здзелак куплі-продажу замежнай валюты, а таксама канверсійных аперацый банкамі і суб'ектамі гаспадарання.

**Ягор Звоннікаў**

# Нас стала менш на 114.587

**Паводле папярэдніх звестак перапісу насельніцтва, які прайшоў з 16 па 23 лютага 1999 года, у Беларусі пражывае 10.037.213 чалавек.**

Як паведаміла намеснік начальніка аддзела перапісу насельніцтва Міністэрства статыстыкі і аналізу Валянціна Краўчанка, агульная колькасць мужчын, якія жывуць у краіне, склала 4.721.101 чалавек, жанчын — 5.316.112; 6.955.951 чалавек жывуць у гарадах і 3.081.262 — у сельскай мясцовасці. У параўнанні з Усесаюзным перапісам 1989 года, агульная колькасць насельніцтва скарацілася на 114.587 чалавек, у тым ліку мужчынскага — на 28.199, а жаночага — на 86.388 чалавек. За 10 гадоў, што прайшлі пасля перапісу 1989 года, на 314.551 чалавек павялічылася колькасць гарадскіх і на 429.138 чалавек скарацілася колькасць сельскіх жыхароў.

Як адзначыла В.Краўчанка, больш падрабязныя вынікі перапісу ў выглядзе выходных рэгламентных табліцаў будуць атрыманы не раней за лістапад 1999 года, пасля шыфравання, кадзіравання і камп'ютарнай апрацоўкі ўсёй масы перапіснай інфармацыі. Дэтальная распрацоўка матэрыялаў перапісу будзе гатова не раней за сярэдзіну 2000 года. Трэба адзначыць, што гэты перапіс насельніцтва стаў першым, праведзеным ва ўмовах незалежнай самастойнай дзяржавы.

У складзе СССР насельніцтва Беларусі падлічвалася ў межах Усесаюзных перапісаў насельніцтва, якія праходзілі ў 1939-м, 1959-м, 1969-м, 1979-м і 1989 гадах.

**Марат Гаравы**

# Армейская маёмасць з малатка

**Дзесяць аб'ектаў, што прыналежалі раней Міністэрству абароны Беларусі, былі выстаўленыя на аўкцыённым таргі, якія прайшлі 14 траўня ў горадзе Пружаны Брэсцкай вобласці.**

Сярод лотаў — казарма, караўульнае памяшканне, вучэбны корпус, гатэль і шэраг іншых збудаванняў, размешчаных непадалёк ад горада Ружаны і гарадскога пасёлку Шэрашава. Усе будынкі — асобнастаячыя, плошчай ад 242 да 3060 квадратных метраў. Пачатковыя цэны ў беларускіх рублях вагаліся ад 141 мільёна да 6 мільярдаў. Таргі прайшлі з выкарыстаннем метаду паніжэння пачатковай цаны, па так званым «галандскім» метадзе.

Напрыканцы красавіка гэтыя будынкі ўжо выстаўляліся на аўкцыён. Тады было прададзена толькі адно пустуючае збудаванне з 11 выстаўленых на продаж аб'ектаў. Пакупнікі — малое прадпрыемства «Крыніца» з Пружан — змаглі ў некалькі разоў знізіць цану і атрымалі будынак плошчай 1260 квадратных метраў усяго за 150 мільёнаў рублёў.

**Валянціна Казловіч**

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# Нам патрэбны Эўрапэйскі выбар!

**Як паведамлялася, старшыня віцебскай Рады БНФ «Выбар» Уладзімір Плешчанка апасьля сямі месяцаў адсідкі выпушчаны на волю з-пад варты. Прайшло каля месяцу пасьля вызваленьня. Мне стала цікава дазнацца пра погляд мужнага «выбарца» на падзеі сёньняшняга дню. Аб гэтым гутарка.**

***- Вас падазравалі ў датычнасьці да дэмантажу бюста А.Суворава ў Віцебску. Як Вы ставіцеся да факту Вашага затрыманьня, да сьледства і да суду?***

- Адказнасьць за дэмантаж бюста ўзяў на сябе Мірон са сваёй групай. Відаць, сьледчыя жадалі мяне зрабіць Міронам. Але гэта было нерэальна.

Тое, што справа цягнулася сем месяцаў, хутчэй за ўсё ёсьць слабасьць нашай апазыцыі. Калі б апазыцыя была больш актыўнай, не баялася адстойваць свае перакананьні, менавіта пытаньні адраджэньня беларускай нацыі, - а дэмантаж бюста А.Суворава тычыцца гэтага, - не баялася адстойваць сваіх сяброў, мне даваліся б адседзець максымум два-тры месяцы.

***- Вы лічыце, што Вашая справа лопнула?***

- Вядома. Ня пойдзе ж Мірон ім казаць: «Я зьняў помнік». Я б гэтага не дапусьціў. Мірон малады чалавек. І ён для Беларусі яшчэ спатрэбіцца і шмат чаго зробіць.

***- Адбыць сем месяцаў у турме ёсьць цяжкае выпрабаваньне. Што Вы можаце сказаць пра становішча ўнутры турмы?***

- Выпрабаваньне нялёгкае. Але не скажу бы, што так ужо вельмі цяжкое. Справа ў тым, што мне сустракаліся людзі, якія аседзелі па два гады ў вязьніцы не за Беларусь, а за сваю сямью. Сталыя людзі, якія ўпарта самі сябе абаранялі. Сябе і свае грошы. Абараняць жа сябе, калі справа грамадзкая, ужо няцяжка. Тым больш, калі адчуваеш нейкую падтрымку.

Іншая справа, што умовы ўтрыманьня сярэднявечныя. Кантынгент зусім не ідэальны, бо мяне трымалі зь людзьмі, якія ўчынілі забойствы. Гэта, відаць, выназдніцтва рэжыму Лукашэнкі: пасадзіць палітычных побач з забойцамі.

***- Ужо прайшло каля месяцу ад Вашага вызваленьня. Як Вы глядзіце на сёньняшнія падзеі на Беларусі ды за яе межамі?***

- Па-першае, я быў пазбаўлены ў турме ўсякай інфармацыі. Што можна сказаць?

Сёньня грамадзтва ўжо ня тое, якое было ўвосень 98-га году. Людзі па слядох крызысу, які адбыўся, усё больш разумеюць, што Лукашэнка прапанаваў іх. Сытуацыя высьпявае.

У турме людзі незадаволеныя тым, што ўзмоцнены крымінальны кодэкс. Іншая справа, што яны самі па сабе савецкія. Ад іх чакаць нечага нерэальна. Але, калі трэба нешта ламаць, біць, дык яны хутчэй пойдуць.

***- Якой Вы бачыце ролю людзей, зацікаўленых у адраджэньні беларушчыны на Беларусі ва ўмовах, што склаліся цяпер?***

- Гэтыя людзі павінны браць на сябе больш адказнасьці. За іх гэтага ніхто ня зробіць. Большасьць пойдзе за тымі, хто праявіць волю і мужнасьць.

***- У нас дзьве асноўныя палітычныя падзеі - прэзыдэнцкія выбары і вайна ў Югаславіі.***

- Наконт вайны ў Югаславіі. Югаславія, дакладней Сэрбія - гэта Расея ў мініяцюры. Некалі сэрбы пажадалі быць пануючай нацыяй сярод паўднёвых славянаў. Яны жадалі адыгрываць тую ролю, што й руская ў Расеі. Але часы пануючых нацыяў скончыліся. Народы пачалі ад «старэйшых братоў» атрахаць рукі. А сэрбы, якія адчувалі сябе сярод паўднёвых славянаў «старэйшымі братамі», і цяпер лічаць, што там, дзе жыве сэрб на тэрыторыі былой Югаславіі - гэта Сэрбія.

***- Так жа сама й у нас на Беларусі...***

- Таксама лічаць і рускія. Дзе рускі чалавек жыве, на тэрыторыі былой Расейскай імпэрыі, там інтарэсы Расеі. У тым ліку і на Беларусі.

***- Як Вы ставіцеся да спробаў Мілошавіча ўцягнуць Расею ў канфлікт з NATO шляхам уваходжаньня Югаславіі ў саюз Беларусі з Расеяй?***

- Да гэтага саюзу я стаўлюся спакойна. Фактычна - гэта нейкія дэкларацыі. Што тычыцца рыторыкі, якая пры гэтым гучыць наконт падтрымкі, сяброўства Лукашэнкі і Мілошавіча, дык яны, лічу, сталіся закладнікамі папулізму перад сваім электаратам.

Разыгрываецца карта варожасьці да Захаду. Бо, як сэрбы, так і ў нечым беларусы, расейцы і ўвогуле савецкі народ выхаваныя на супрацьстаяньні яму. І цяпер, каб утрымацца ва ўладзе, постсавецкія дыктатары вымушаныя распальваць варожасьць да Заходняй Эўропы.

Трагічны лёс гэтых сэрбаў. Такі ж, як немцаў пры Гітлеры.

***- Вернемся на Беларусь. У нас становішча падобнае на Югаслаўскае, у тым сэнсе, што ў нас свой дыктатар.***

- Дыктатарам А.Лукашэнку яшчэ пакуль называць ранавата. Ён яшчэ законны прэзыдэнт. Але дыктатарскія замашкі ў яго назіраюцца.

Зьліквідавана незалежная судовая сыстэма. Вядома, што ён узурпаваў уладу ў лістападзе 1996 году, разагнаўшы незаконна парлямант. Тое, што ён апасьля гэтага добраахвотна сыйдзе з палітычнай арэны - малаверагодна. Тым больш, што выбары ў 1999 годзе ён праводзіць не зьбіраецца.

***- Робяцца спробы правесьці прэзыдэнцкія выбары адпаведна легітымнай Канстытуцыі 1994 году. Але, штосьці, мала спадзяваньняў на іхны слушны вынік.***

- Выбары - гэта адкрытае волевыяўленне людзей. Людзі прапаноўваюць шляхі выйсьця з цяжкага становішча, або прапануюць план развіцця грамадзтва на нейкі пэрыяд. Гэта абмяркоўваецца адкрыта. У прэсе, па тэлебачаньні. Потым выбаршчыкі выносяць свой вердыкт, адкрыта галасуючы.

У дадзеным выпадку гэта немагчыма. Правесьці выбары ў сёньняшніх умовах нерэальна. Падпольна праводзіць выбары - гэта ня выбары, а іхная імітацыя. Я ня ведаю выпадкаў у гісторыі, дзе б змаглі правесьці падобныя выбары, а потым была прызнаная законнасьць улады. Нездарма Эўрапэйская супольнасьць з няасьцярожанасьцю ставіцца да гэтага працэсу.

Прэзыдэнцкія выбары можна выкарыстоўваць, як адзін з элемэнтаў для дыскрэдытацыі рэжыму Лукашэнкі, каб паказаць немагчымасьць у ім праводзіць выбараў. Каб зацікавіць беларускае грамадзтва, што тэрмін паўнамоцтваў першага прэзыдэнта заканчваецца. Але мы павінны разумець, што шляхам выбараў ад Лукашэнкі ўжо не пазбавіцца. У лепшым выпадку ў такіх умовах можна толькі выбраць лідара апазыцыі на нейкі час.

***- Апасьля 20 ліпеня, такім чынам, Беларусь будзе зь нелегітымнай уладай. Як Вы мяркуеце, ці добраахвотна аддасьць уладу гэты рэжым?***

- Сапраўды, першы прэзыдэнт апасьля 20 ліпеня будзе незаконным. Іншая справа, як будзе грамадзтва да гэтага ставіцца. Канстытуцыя, напрыклад, 1996 году таксама незаконная. Але ж людзі цэрпяць яе і выконваюць. Нават апазыцыя. Можа, яна будзе цярпець і выконваць, таксама, загады Лукашэнкі пасьля ліпеня гэтага году?

Як жа ўсталяваць законнасьць? Напэўна, толькі ўжываючы нейкую сілу. Я не скажу, што фізічную. Што трэба адстрэльваць гэтага чалавека. Зьліквідаваўшы яго такім чынам, або зрабіўшы «дварцовы пераварот», зь яго можна толькі зрабіць героя, накшталт Машэрава.

Ёсьць другі шлях: грамадзянскае непадпарадкаваньне. Калі людзі, дзесяткі ці сотні тысячаў выйдуць на вуліцу і запатрабуюць ягонай адстаўкі. Калі гэтых людзей будзе шмат, ён зьбяжыць. А калі іх будзе ўсяго больш ды сканцэнтраваная воля, дык яны змогуць яго й арыштаваць.

Сёньня так званая «кіруючая эліта» не пабяжыць ужо сьлепа за Лукашэнкам. І выконваць ягоныя загады ня будзе. І ніхто ня будзе страляць людзей на вуліцах. А сам ён чалавек палахлівы.

Але ж і няма той арганізацыі, групы людзей, таго лідара, які змог бы з'акумуляваць незадаволенасьць людзей, і павесьці іх за сабой, узяўшы на сябе адказнасьць за гэта.

***- Вы мяркуеце, што калі б зьявіўся такі лідар, ён быў бы ў стане зьмяніць становішча?***

- Лідары не зьяўляюцца ў адну хвіліну. Яго пакуль няма, і ён, відаць, хутка ня зьявіцца. Калі б ён быў, дык яшчэ з 1995 году павінен быў бы праявіць сябе. Лідар ці група лідараў. Было відно, што насоўваецца дыктатура. Трэба было браць на сябе адказнасьць. Не знайшлося такіх.

Напрыклад, нашая арганізацыя «Выбар» узяла на сябе адказнасьць і зрабіла заяву, што ня будзе выконваць пастановы й законы, якія датычаць грамадзка-палітычнай дзейнасьці і супярэчаць Канстытуцыі 1994 году. І каралі нас за гэта, і саджалі, і штрафавалі - а мы і па сёньня іх не выконваем. Калі нешта падобнае лідары прапанавалі б на ўзроўні краіны, дык сёньня людзі б за імі пайшлі. Бо ўмовы спрыяльныя.

***- Цяпер, напэўна, самыя ўплывовыя асобы ў апазыцыі - Чыгір і Ганчар?***

- Гэтыя людзі сапраўды імкнуцца быць лідарамі апазыцыі. А дакладней ў апазыцыі да А.Лукашэнкі, зьвязваючы ўсе беды Беларусі з ягоным знаходжаньнем ва ўладзе. Але які шлях выйсьця з гэтага становішча яны прапануюць?

Калі казаць пра дэмакратыю, як было пры С.Шушкевічы, калі наменклатурай усё было раскрадзенае, дык гэта не выйсьце. Патрэбны канкрэтны выбар шляху, па якім пойдзе беларускі народ. Спосаб хітрага цяляці па С.Шушкевічу, які дзьвюх матак смокча, у дадзеным выпадку непрыдатны.

А.Лукашэнка зрабіў свой выбар на ўсход. Выбар Чыгіра, Ганчара неакрэсьлены. Нельга разарвацца паміж Эўропай ды Азіяй.

***- Напэўна, Эўропа нам гістарычна бліжэй?***

- Калі ўлічыць апошнія два стагодзьдзі, дык наадварот. Але ж гісторыя народа не абмяжоўваецца апошнім часам. Асабліва савецкім. Росквіт народа і ўсяго, што дасягнулі беларусы спалучаны менавіта з Эўропай.

Найбольшага росквіту сёньня дасягнулі эўрапэйскія народы. Таму й выбар мы павінны зрабіць менавіта туды. Напрыканцы 80-х гадоў З.Пазьняк прапанаваў гэты выбар для Беларусі. Толькі вось большасьць насельніцтва не ўспрыняла яго. Савецкая зьвыкласьць перамагла. І узнесла Лукашэнку.

***- А чаму менавіта яго ўзьнесьлі людзі?***

- Гэты чалавек прапанаваў ім добрае жыцьцё, не прыкладаючы дзеля гэтага ніякіх намаганьняў. Не памяняўшы былым савецкім людзям свой сьветапогляд.

Эўропа пабудаваная па нацыянальнай прыкмеце. Кожная нацыя імкнецца мець сваю дзяржаву. І ахоўвае сваю нацыянальную адметнасьць як найвялікшую каштоўнасьць.

Беларусы ня супраць быць у Эўропе. Але Эўропу мы цікавім не як частку расейскага насельніцтва альбо абрусеўшых беларусаў. А менавіта як самабытная нацыя, якая складае частку сусьветнай цывілізацыі. Дзеля гэтага трэба адрадзіць свае нацыянальныя каштоўнасьці, прыкласьці пэўныя намаганьні.

А гэтага беларускае насельніцтва не пажадала зрабіць. Яно палічыла, што вялізная Расея і яе танныя карысныя выкапні больш надзейныя. Што саюз з Расеяй будзе гарантаваць ня толькі дабрабыт, але й сувэрэнітэт.

***- Дык Вы мяркуеце, што ў сукеведці эўрапэйскіх народаў мы будзем адчуваць сябе больш утульна?***

- Так. Вялізная Расея, у якой азыяцкага больш, чым эўрапэйскасьці, заўжды нас будзе цягнуць у азыятчыну. І ніколі не дазволіць стаць на ўзроўні эўрапэйскага народу.

Усе эўрапэйскія народы сумесна з ЗША ды Канадай аб'ядналіся ў Паўночна-атлантычны абаронны саюз (NATO). Каб ахоўваць сваю эўрапэйскасьць ад азыяцкага ўплыву. Таму невялікія краіны ў Эўропе адчуваюць сябе ў бясьпецы. Бо NATO абараняе ня толькі іхні сувэрэнітэт, але й дэмакратычны лад. У Эўропе няма мейсца Мілошавічам і Лукашэнкам.



Уладзімір Плешчанка

***- На жаль, так думае няшмат беларусаў.***

- Шкада, але людзі, якія жадаюць павярнуць Беларусь да Эўропы, спрабуюць заручыцца падтрымкай большасьці насельніцтва. Для нашых людзей эўрапэйскі выбар ёсьць новае. А новае ва ўсім прасоўвае ня большасьць, але актыўная, адукаваная, прадбачлівая меньшасьць. Яна на Беларусі ёсьць. Ёй толькі трэба ўсьвядоміць, што трэба ўзяць на сябе адказнасьць за лёс Беларусі.

***- На працягу апошніх двух стагодзьдзяў такія людзі сярод беларусаў знаходзіліся. Але яны цярпелі паразу.***

- Так. Беларусы паўставалі ў 1794 годзе, калі расейцы з дапамогай А.Суворава патапілі тое паўстаньне ў крыві. Паўставалі ў 1830 годзе пад кіраўніцтвам віцябнянкі Эміліі Плятар. Нарэшце ў 1864 годзе на чале з К.Каліноўскім. Кожнае пакаленьне беларусаў жадала паказаць, што яно не пагаджаецца з акупацыяй і спрабуе пазбавіцца прыгнёту. Не выключэньнем будзе і сёньняшняе пакаленьне. Ёсьць жа Мірон. І падобных яму будзе шмат.

***- А калі зноў няўдача, калі рэжым Лукашэнкі ўзмацніцца надоўга?***

- У мінулыя часы ў сьвеце існавала некалькі вялікіх імпэрыяў, і Нацыянальна-вызвольны рух не падтрымліваўся імі. Сёньня ж міжнародная супольнасьць не дапусьціць ягонага здушэньня.

У 1918 годзе была абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка. Да гэтага часу існуе яе Рада, на чале якой знаходзіцца сёньня Івонка Сурвілла. Вось менавіта да іх нацыянальна сьвядомая меньшасьць па выніку няўдачы і зьвернецца.

***- Вы маеце на ўвазе грамадзянства БНР?***

- Так. Але гэта павінен быць ня проста збор подпісаў жадаючых увайсці ў грамадзянства БНР. А абавязак гэтых людзей, што пажадаюць быць грамадзянамі, падтрымліваць Раду БНР матэрыяльна і духоўна. Каб тая змагла стварыць урад у выгнаньні, які быў бы прызнаны міжнароднай супольнасьцю. І які меў бы рэальны ўплыў на сваіх грамадзянаў.

***- І апошняе пытаньне, але не апошняе па значнасьці. У незалежнай прэсе на Беларусі склалася гэткае расейска-беларускае адзінства. Амаль што саюз. Ці на карысьць гэта беларускаму Адраджэньню?***

- А ці можна казаць увогуле аб незалежнай прэсе ў краіне, дзе адсутнічае рэальная шматпартыйная сістэма? У дэмакратычным грамадзтве журналісты ў асноўным сапраўды адлюстроўваюць у прэсе тое, што у гэтым грамадзтве адбываецца. Гэтая прэса незалежная ад улады.

На Беларусі асноўныя СМІ якраз належаць уладзе. З дапамогай іх ўлада выхоўвае грамадзянаў у патрэбным ёй накірунку. А гэты накірунак якраз і ёсьць руска-беларускае адзінства.

Гэтым дзяржаўным СМІ павінна быць альтэрнатыва. А альтэрнатыва - гэта нацыянальнае Адраджэньне. І Эўрапэйскі выбар.

Калі прэса хоча дагадзіць большасьці, якая ўспрымае руска-беларускае спалучэньне - яна практычна дапамагае праводзіць палітыку ўлады. Калі ж яна ня ў стане выкарыстоўваць беларускую мову з-за матэр'яльнай залежнасьці, хай праводзіць палітыку Адраджэньня на расейскай мове. Але шанучы пры гэтым першанасьць беларускай ідэі. Хаця гэта ня выйсьце. Трэба вабіць чытача натуральнай беларушчынай. Нават у турме мяне разумелі як сукамернікі, так і ахоўнікі, калі я настойліва карыстаўся беларускай мовай.

**Размаўляў**
**Юрась Карпаў**

# Памылка наменклатуры

**Увод пасады прэзідэнта ў Канстытуцыю Беларусі быў вялікай памылкай наменклатуры. Але ж нават «заднім розумам» не ўсе моцныя, таму і важна сёння ўлічыць гэтую памылку, пакуль не ўсё яшчэ страчана. Уся наменклатура ў той ці іншай ступені была замешана ў так званай карупцыі, а калі хто і не быў «замазаны», то ўсё роўна «накапаць» кампрамату на яго няцяжка. Дыктатар яшчэ не набраў поўную моц, дзякуючы дэмакратычнай апазіцыі, у першую чаргу БНФ, але ж пробныя адстрэлы ўжо зроблены, і выразы тварў наменклатуры на «селектарных нарадах» не сведчаць пра шчасце і ўпэўненасць, хутчэй наадварот.**

Дыктатары, як паказвае гісторыя, могуць абыйсціся і без "даверaных асоб" і прыхільнікаў. Яны могуць абапірацца непасрэдна на замбаваны натоўп і сілавіцкую кшталту апрычнікаў Івана Жахлівага, тaтон-макутаў у Паўднёвай Амерыцы і структуры НКВД-КГБ. Лукашэнку не патрэбны палпечнікі, яму дастаткова кантраляваць натоўп з дапамогай тэлебачання і мець добра аплочаны АМАП і асабістую ахову. Атрымаўшы заканадаўчы рычаг у выглядзе паўнамоцтваў прэзідэнта і размахваючы дубінай барацьбіта з карупцыяй, ён праламаў тонкі пласт законнасці, зрабіў дзяржаўны пераварот, узмацніў сваю ўладу і ледзь не прарваўся ў Крэмль.

Маскоўская наменклатура ў шавіністычным ачмурэнні да гэтага часу любіць Лукашэнку, а менская не вельмі любіць, хаця выгляду не падае. Можна зразумець менскую наменклатуру, тэарэтычна яна баіцца Пазьняка, з аднаго боку, і, практычна Лукашэнку, з другога боку. Асоба Чыгіра, магчыма, яе б задаволіла. Але ж тут праблема не столькі ў асобе, колькі ў самой пасадзе прэзідэнта, і таму ёй трэба імкнуцца да скасавання гэтай пасады, з чым, дарэчы, згодна і дэмакратычная апазіцыя. Наша наменклатура да таго ж глядзіць у бок Захада, дзе добра і бяспечна жыць. А прыклад Польшчы, дзе мясцовая наменклатура стала на бок дэмакратыі і моцна не пацярпела, дае ёй надзею, што нават калі да ўлады прыйдзе БНФ, які адстойвае нацыянальныя інтарэсы і ёсць відавочна празаходні, то з ёю нічога дрэннага не адбудзецца.

Калі ж Лукашэнка, барані Бог, узмацніцца, то чыстка сярод наменклатуры, як бы яна не камуфлявалася, непазбежная. Да таго ж, яму трэба камунебудзь накіраваць нянавісць галоднага народа. Расійскія другарадныя чыноўнікі з задавальненнем прыедуць у Беларусь на першыя пасады, а да халуйства ім не прызвычайвацца.

**Сяргей Дамброўскі**

# Шведы дапамаглі «Тутэйшым»

**З 6 па 9 траўня 1999 года ў г.Брэсце адбыўся семінар-трэнінг для лідараў моладзевых арганізацыяў Брэсцкай вобласці, які меў назву «Рэпка, ці Шляхі супрацоўніцтва».**

Дадзены семінар з'яўляецца адным з серыі семінараў, якія праводзяцца ва ўсіх рэгіёнах Беларусі ў рамках сумеснага беларуска-шведскага праекту «Тутэйшыя», які здзяйсняюць Беларускі Нацыянальны Савет моладзевых і дзіцячых аб'яднанняў і Шведскі Нацыянальны Савет моладзевых арганізацыяў.

Мэты праекту «Тутэйшыя»:

- падтрымка дэмакратычнага развіцця і станаўлення грамадзянскай супольнасці праз падтрымку незалежных моладзевых арганізацый;
- садзеянне стварэнню рэгіянальных саветаў моладзевых арганізацый;
- садзеянне кантактам паміж шведскімі і беларускімі моладзевымі арганізацыямі.

У семінары разам з прадстаўнікамі рэгіянальных моладзевых арганізацый прынялі ўдзел прадстаўнікі шведскіх моладзевых арганізацый, зацікаўленыя ў кантактах з беларускімі калегамі.

Наступнае мерапрыемства ў рамках сумеснага беларуска-шведскага праекта «Тутэйшыя» адбудзецца 24-26 верасня ў Гродне.

**Ул. інф.**



**Серада, 19**

### RTL7
07.00 «Свет пана трэнера».
07.25 «Аўтастрада да неба».
08.15 «Sunset Beach».
09.00 «Выязныя замалёўкі».
10.00 «Прыгажуня і пачвара».
10.50 «Трэцяя планета ад Сонца».
11.15 «Паліцэйскія з Маямі».
12.05 Вечар з вампірам.
13.10 Тэлешопінг.
13.45 Zoom.
14.15 «Аўтастрада да неба».
15.10 «Прыгажуня і пачвара».
16.05 «Выязныя замалёўкі».
17.20 «Дзяўчына з камп`ютара».
17.45 «Пачвара з багнаў».
18.10 «Сям`я Патварніцкіх».
18.35 «Трэцяя планета ад Сонца».
19.00 «Sunset Beach».
19.50 7 хвілін.
20.00 Zoom.
20.30 «Свет пана трэнера».
21.00 У сераду - само жыццё.
23.20 «Меандры справядлівасці».
00.10 7 хвілін.
00.25 «Murder Call».
01.15 «Крымінальныя гісторыі».

### POLSAT 2
10.00 «Крылы».
10.30 «Начны патруль».
11.30 «Брыгада А».
12.30 «Запал маладосці».
13.30 «Мікаэла».
14.30 Юнiёр.
15.00 Шок-блок.
15.30 «Прывіды».
16.00 Песенька па жаданню.
17.00 «Мікаэла».
18.00 Навіны.
18.15 «Капітан Ястраб».
18.40 «Брыгада А». Серыял.
19.35 «Крылы».
20.00 «Домік ў прэрыі».
20.50 Навіны.
21.05 «Крыперс-2».
22.00 «Каменны сон». Трылер. ЗША.
23.35 «Халодны, як шкло». Фільм. ЗША.
01.30 Прытулі мяне.

### TV POLONIA
10.00 Навіны.
10.10 Тэлетурнір.
10.30 «Акварыум ці Журбота шпіёна». Сенс. серыял.
11.20 Музычная пр-ма.
12.00 «Таямніцы Расіі».
13.00 Навіны.
13.10 Запрашэнне.
13.30 «Клан».
13.50 Польскія звесткі.
14.05 Музычная пр-ма.
14.30 Гэта Польшча.
15.00 Толькі музыка.
16.00 Панарама.
16.30 Дыялогі з мінулым.
17.00 «Клан».
17.30 Музычная праграма.
18.00 Тэлеэкспрэс.
18.15 Польская прэса.
18.35 Крыжаванка шчасця.
19.00 «Камедыянтка».
19.55 Літаратурная праграма.
20.10 Госць Адзінкі.
20.20 Калыханка.
20.30 Навіны.
21.05 «Камедыянты з грэшнай вуліцы». Маст. фільм. Польшча.
22.45 Музычная пр-ма.
23.30 Панарама.

### EUROSPORT
9.30 Веласпорт.
10.00 Футбол.
11.30 Картынг.
13.30 Мотакрос.
14.30 Тэніс.
15.00 Гольф.
16.00 Веласпорт.
18.00 Тэніс.
20.00 Мотаспорт.
21.30 Спартыўныя танцы.
23.00 Фітнэс.
01.00 Дроцікі.
01.00 Мотаспорт.
02.00 Веласпорт.

**Чацвер, 20**

### RTL7
07.00 «Свет пана трэнера».
07.25 «Аўтастрада да неба».
08.15 «Sunset Beach».
09.00 «Выязныя замалёўкі».
10.15 Мультсерыял.
11.10 «Трэцяя планета ад Сонца».
11.30 «Паліцэйскія з Маямі».
12.20 «Меандры справядлівасці».
13.10 Тэле-шопінг.
13.45 Zoom.
14.20 «Аўтастрада да неба».
15.15 Мультсерыял.
16.10 «Выязныя замалёўкі».
17.20 «Дзяўчына з камп`ютара».
17.45 «Пачвара з багнаў».
18.10 «Сям`я Патварніцкіх».
18.35 «Трэцяя планета ад Сонца».
19.00 «Sunset Beach».
19.50 7 хвілін.
20.00 «Zoom».
20.30 «Свет пана трэнера».
21.00 «Кобра - спецыяльны аддзел».
22.00 «Каманда малалетак».
22.55 «Права і бяспраўе». Серыял.
23.45 7 хвілін.
23.55 «Паветраны воўк».
00.45 «Крымінальныя гісторыі».

### POLSAT 2
10.00 «Крылы».
10.30 «Крыперс-2».
11.35 «Домік у Прэрыі».
12.30 «Запал маладосці».
13.30 «Мікаэла».
14.30 Музычная пр-ма.
15.00 Ды Джэй клуб.
15.30 «Гукавая дарожка».
16.00 Песенька па жаданню.
17.00 «Мікаэла».
18.00 Навіны.
18.15 Мультсерыял.
18.40 «Брыгада А».
19.35 «Крылы».
20.00 Домік у прэрыі.
21.05 «Рэал».
22.00 «Брыгада А».
22.55 «Халодны, як шкло». Маст. фільм.
0.40 «Брыгада А».

### TV POLONIA
10.00 Навіны.
10.15 Людзі пішуць лісты.
10.30 «Камедыянты з грэшнай вуліцы». Маст.фільм. Польшча.
12.10 Музычная пр-ма.
13.00 Навіны.
13.30 Рэпартаж.
14.05 Крыжаванка шчасця.
14.30 Скарбонка.
15.00 «Камедыянтка».
16.00 Панарама.
16.30 Спорт.
17.00 Рэпартаж.
17.30 «Тры дні, каб выжыць».
18.00 Тэлеэкспрэс.
18.15 Польская песенька.
20.10 Госць Адзінкі.
20.20 Калыханка.
20.30 Навіны.
21.05 Тэлетэатр.
22.55 MdM.
23.30 Панарама.

### EUROSPORT
9.30 Веласпорт.
10.00 Футбол.
12.00 Мотаспорт.
14.00 Футбол.
15.00 Ветразевы спорт.
15.30 Горны веласпорт.
16.00 Веласпорт.
18.00 Тэніс.
20.00 Мотачасопіс.
21.30 Ролікавыя канькі.
23.00 Бокс.
00.00 Кеглі.
01.00 Мотачасопіс.
02.00 Веласпорт.

**Пятніца, 21**

### RTL7
07.00 «Свет пана трэнера».
07.25 «Аўтастрада да неба».
08.15 «Sunset Beach».
09.00 «Выязныя замалёўкі».
10.10 Мультсерыял.
11.05 «Трэцяя планета ад Сонца».
11.30 «Паліцэйскія з Маямі».
12.20 «Каманда малалетак».
13.10 Тэле-шопінг.
13.50 Zoom.
14.20 «Аўтастрада да неба».
15.15 Мультсерыял.
16.10 «Выязныя замалёўкі».
17.20 «Дзяўчына з камп`ютара».
17.45 «Пачвара з багнаў».
18.10 «Сям`я Патварніцкіх».
18.35 «Трэцяя планета ад Сонца».
19.00 «Sunset Beach».
19.50 7 хвілін.
20.00 Zoom.
20.30 «Свет пана трэнера».
21.00 Фантастычная пятніца.
22.55 «У чужой скуры». Серыял.
23.45 7 хвілінаў.
00.00 Трылер. ЗША.

### POLSAT 2
09.30 Мультсерыял.
10.00 «Крылы».
10.30 «Крыперс».
11.30 «Брыгада А».
12.30 «Запал маладосці».
13.30 «Мікаэла».
14.30 Музычная пр-ма.
15.00 Ды Джэй клуб.
15.30 «Гукавая дарожка».
16.00 Песенька па жаданню.
17.00 «Мікаэла».
18.00 Навіны.
18.10 Мультсерыял.
18.40 «Брыгада А».
19.30 «Крылы».
20.00 «Домік у прэрыі».
21.05 «Рэал».
22.00 Камедыя ЗША.
23.50 Сенсацыйны фільм. ЗША.
01.30 Прытулі мяне.

### TV POLONIA
10.00 Навіны.
10.30 «Маці, жонкі, каханкі...».
11.30 Дак. фільм.
12.00 «Золата Польшчы».
13.00 Навіны.
13.10 Агляд польскай прэсы.
13.30 Гістарычная пр-ма.
14.05 Польская песенька.
14.25 Дыялогі з мінулым.
15.00 Пегас.
15.20 «Фронда».
15.50 Польская кухня.
16.00 Панарама.
16.30 «Крэда».
16.55 Гістарычная пр-ма.
17.35 «Ала і Ас».
17.50 Каляровыя ноткі.
18.00 Тэлеэкспрэс.
18.15 Музычная пр-ма.
18.35 Палер.
19.00 «Фітнес-клуб».
19.30 «Маска».
20.00 Тата, а Марцін сказаў...
20.20 Калыханка.
20.30 Навіны.
21.05 «Маці, жонкі, каханкі...».
22.05 Музычны фестываль.
23.00 Публіцыстычны агляд.
23.30 Панарама.

### EUROSPORT
09.30 Экстрэмальныя віды спорту.
10.30 Горны веласпорт.
11.00 Экстрэмальныя віды спорту.
12.00 Веласпорт.
13.30 Мотаспорт.
16.00 Веласпорт.
16.30 Горны веласпорт.
19.00 Мотаспорт.
20.00 Тэніс.
22.00 Веласпорт.
23.00 Бокс.
00.00 Мотаспорт.
01.00 Дзюдо.
02.00 Веласпорт.

**Субота, 22**

### RTL7
08.00 «Свет пана трэнера».
08.25 «Sunset Beach».
09.10 Мультсерыял.
10.00 «Выязныя замалёўкі».
12.30 «У чужой скуры».
13.20 Камедыя.
15.00 «Легенда Вільгельма Тэля».
15.55 Укрытая камера.
16.20 «Дэтэктывы». Серыял.
16.50 «Лана і Вудлі». Серыял.
17.20 «Зямля - апошняе спатканне».
18.10 «Ахоўнік часу».
19.00 «ПСІ Фактар - ІІ».
19.50 7 хвілін.
20.00 «Extra Zoom».
20.35 «Свет пана трэнера».
21.00 - 02.05 Субота моцных уражанняў.
02.05 «ПСІ Фактар - ІІ».
00.30 Трылер.

### POLSAT 2
07.30 Дзяжурны сатырык краіны.
08.00 «Жыццё, як покер».
08.30 Тэлезабава.
09.00 «Коджак».
09.55 «Бананза».
10.50 Мультсерыял.
11.35 Мультсерыял.
12.00 Таямнічая выспа.
12.30 «Pacific Blue».
13.35 «Мікаэла».
14.30 Мотачасопіс.
15.00 Шоу «Юніёр».
15.30 Сатырычная пр-ма.
16.00 Дыска.
17.10 «Клопаты са святамі». Камедыя.
19.00 «Коджак».
20.00 «Pacific Blue».
20.50 Навіны.
21.05 «Майстар шантажу». Маст. фільм.
22.55 Тэле-шоу.
23.55 «Летнія мары». Маст. фільм.
01.35 «Тры крокі да шаленства». Маст. фільм.
03.00 Дыска.

### TV POLONIA
10.00 Навіны.
10.10 Мультфільм.
10.20 «Дзіксі». Серыял.
10.30 «Ала і Ас». Серыял.
10.50 «Шафікі».
11.20 Звералюб.
11.40 Брава! Біс!
13.00 Фільм па жаданню.
14.30 Дак. фільм.
15.00 «Моллі».
15.30 Тэлетурнір.
16.00 Рэпартаж.
16.35 Музычная праграма.
17.00 Польскія звесткі.
17.15 Кажу табе...
17.35 Людзі пішуць лісты.
18.00 Тэлеэкспрэс.
18.15 Публіцыстычная праграма.
18.40 Каралева прадмесця.
20.05 Тэледыскі па жаданню.
20.15 Калыханка.
20.30 Навіны.
21.00 Канцэрт.
21.05 Сатырычная праграма.
21.55 «Кароль». Маст. фільм. Польшча.
00.00 Панарама.

### EUROSPORT
09.30 Веласпорт.
10.30 Мотаспорт.
16.00 Гарны веласпорт.
17.00 Веласпорт.
18.00 Конны спорт.
19.00 Мотаспорт.
21.00 Веласпорт.
21.30 Аўтамабілізм.
22.30 Картынг.
00.00 Навіны.
00.15 Дзюдо.
01.30 Веласпорт.

**Нядзеля, 23**

### RTL7
07.10 Тэлешопінг.
08.10 Укрытая камера.
08.35 «Свет пана трэнера».
09.00 «Дэтэктывы».
09.30 «Лана і Вудлі».
10.00 Выязныя замалёўкі.
12.15 Гістарычны серыял.
13.05 Камедыя ЗША.
14.40 Альфрэд Хічкок прадстаўляе.
15.10 Аўтастрада да неба.
16.05 Укрытая камера.
16.25 «Вызваліцель чалавецтва».
16.50 «Зробім сабе добра».
17.15 «Дэтэктывы з вышэйшых сфераў». Серыял.
18.10 «Сёмае неба».
19.00 «Савана».
19.50 7 хвілін.
20.05 «McCall».
21.05 Цудоўная нядзеля.
23.05 «Вечар з вампірам».
00.20 «Аблічча Нью-Ёрку».
01.05 Эратычны серыял.

### POLSAT 2
07.00 Талент за талент.
07.30 Оскар.
08.00 «Жыццё, як покер».
08.30 Гульня «Забава».
09.00 «Коджак».
09.55 «Бананза».
10.50 Мультсерыял.
11.35 Мультсерыял.
12.00 «Таямнічая выспа».
12.30 «Pacific Blue».
13.35 «Горад Эвенінг Шэйд».
14.00 «Дайце нам святы спакой». Серыял.
15.15 «Клопаты са святамі» Камедыя.
17.00 «Арбітальны пастарунак».
18.00 Серыял для моладзі.
18.30 Бэні Хіл.
19.00 «Коджак».
20.00 «Pacific Blue».
20.50 Навіны.
21.05 «Рэал».
22.00 «Матлок».
22.50 «Дыягназ забойства». Серыял.
23.45 «Сківіцы-3». Жахі.
01.30 Музычная праграма.

### TV POLONIA
09.50 Дзень добры на дзень добры.
10.10 Мультфільм.
10.30 «Ала і Ас». Серыял.
10.50 «Шафікі».
11.20 Звералюб.
11.40 Брава! Біс!
13.00 Фільм па жаданню.
14.00 Трансмісія нядзельнай імшы.
15.00 Польскія байкі.
15.30 Тэлетурнір.
16.00 Рэпартаж.
16.35 Музыкальная праграма.
17.00 Польскія звесткі.
17.15 Кажу табе...
17.35 Людзі пішуць лісты.
18.00 Тэлеэкспрэс.
18.15 Публіцыстычная праграма.
18.50 «Жанчына над юезданню». Гістарычны фільм.
20.05 Тэледыскі па жаданню.
20.15 Калыханка.
20.30 Навіны.
21.00 Канцэрт.
21.55 «Лебядзіная песня». Маст. фільм. Польшча.
22.50 Рэпартаж.
23.30 Панарама.

### EUROSPORT
9.30 Веласпорт.
10.30 Мотаспорт.
16.00 Горны веласпорт.
17.00 Веласпорт.
18.00 Конны спорт.
19.00 Мотаспорт.
21.00 Веласпорт.
21.30 Аўтамабілізм.
00.00 Навіны.
00.15 Дзюдо.
01.30 Веласпорт.

**Панядзелак, 24**

### RTL7
07.25 «Зробім сабе добра».
07.45 «Аўтастрада да неба».
08.35 «Сёмае неба».
09.20 «Савана».
10.10 Драма. ЗША.
12.10 Вечар з вампірам.
13.15 Тэле-шопінг.
13.50 Zoom.
14.20 «Аўтастрада да неба».
15.20 Мультсерыял.
16.10 «Выязныя замалёўкі».
17.20 «Прышэльцы ў сям`і».
17.45 «Пачвара з багнаў».
18.10 «Сям`я Патварніцкіх».
18.35 «Трэцяя планета ад Сонца».
19.00 «Sunset Beatch».
19.50 7 хвілін.
20.00 Zoom.
20.30 «Свет пана трэнера».
21.00 Рамантычны панядзелак.
22.40 «Адвакаты».
23.35 7 хвілін.
23.50 Фільм. ЗША.

### POLSAT 2
07.00 Талент за талент.
07.30 Оскар.
08.00 «Жыццё, як покер».
08.30 Серыял.
09.00 «Бананза».
10.05 «Коджак».
11.10 Мультсерыял.
11.40 Мультсерыял.
12.15 «Таямнічая выспа».
12.40 Рэслінг.
13.40 Камедыя.
14.05 «Вайна і памяць».
15.00 Мультсерыял.
17.00 «Арбітальны пастарунак».
18.00 «Магутная дружына».
18.30 Шоу Бэні Хіла.
19.00 «Дынастыя».
20.00 «Коджак».
20.50 Навіны.
21.05 Мастацкі фільм.
22.05 «Гарачая тэма».
23.05 Сенсацыйны фільм.
00.10 Маст. фільм.
02.00 Музычная праграма.

### TV POLONIA
10.00 Навіны.
10.30 «Лебядзіная песня». Маст. фільм. Польшча.
12.15 Біяграфія.
13.00 Навіны.
13.30 «Клан».
14.10 «Ці нас яшчэ памятаеш?».
15.00 «Фітнэс клуб».
15.30 Маска.
16.00 Панарама.
16.30 Аўтамотаклуб.
17.00 «Клан».
17.15 Спартыўны тыдзень.
18.00 Тэлеэкспрэс.
18.15 Спартыўны тыдзень.
18.35 Крыжаванка шчасця.
19.00 «Ала і Ас».
20.00 Дзённік ТБ.
20.20 Калыханка.
20.30 Навіны.
21.05 «Хтосьці ведае». Маст. фільм. Польшча.
22.40 «Малая рэч, а прыемна».
23.00 Рэпартэрскі вечар.
23.30 Панарама.

### EUROSPORT
9.30 Веласпорт.
10.00 Аўтамабілізм.
12.00 Тэніс.
16.30 Веласпорт.
18.00 Тэніс.
21.00 Веласпорт.
21.30 Мотачасопіс.
22.30 Бокс.
23.30 Футбол.
00.30 Тэніс.
01.30 Мотаспорт. ЧС.
02.00 Веласпорт.

**Аўторак, 25**

### RTL7
07.25 «Аўтастрада да неба».
08.15 «Sunset Beach».
09.00 «Выязныя замалёўкі».
10.10 Мультсерыял.
11.05 «Трэцяя планета ад Сонца».
11.30 Паліцэйскія з Маямі.
12.20 «Адвакаты».
13.10 Тэле-шопінг.
13.50 Zoom.
14.20 «Аўтастрада да неба».
15.20 Мультсерыял.
16.10 «Выязныя замалёўкі»
17.20 «Дзяўчына з камп`ютара».
17.45 «Пачвара з багнаў».
18.10 «Сям`я Патварніцкіх».
18.35 «Трэцяя планета ад Сонца».
19.00 «Sunset Beatch».
19.50 7 хвілін.
20.00 Zoom.
20.30 «Свет пана трэнера».
21.00 Камедыйны аўторак.
22.45 Вечар з вампірам.
00.00 7 хвілін.
00.15 Сенсацыйны фільм. ЗША.

### POLSAT 2
07.00 Талент за талент.
07.30 Оскар.
08.00 «Жыццё, як покер».
08.30 Серыял.
09.00 «Бананза».
10.05 «Коджак».
11.10 Мультсерыял.
11.40 Мультсерыял.
12.15 «Таямнічая выспа».
12.40 Рэслінг.
13.40 Камедыя.
14.05 «Вайна і памяць».
15.00 Мультсерыял.
17.00 «Арбітальны пастарунак».
18.00 «Магутная дружына».
18.30 Шоу Бэні Хіла.
19.00 «Дынастыя».
20.00 «Коджак».
20.50 Навіны.
21.05 Камедыя.
22.05 Крымінальны фільм.
00.10 Маст. фільм.
02.00 Музычная пр-ма.

### TV POLONIA
10.00 Навіны.
10.10 Погляд на Польшчу.
10.30 «База нябожчыкаў». Маст. фільм. Польшча.
12.20 Зоркі мінулых гадоў.
13.00 Навіны.
13.10 Спартыўны тыдзень.
13.30 Клан.
13.55 Аўта-мота клуб.
14.05 Крыжаванка шчасця.
14.30 Польскі часопіс.
15.00 «Памежжа ў агні».
16.00 Панарама.
16.30 «Кавальскі і Шмідт».
17.00 «Клан».
17.30 «Шэсць мільёнаў секунд».
18.00 Тэлеэкспрэс.
18.15 Запрашэнне.
18.35 Забаўляльная праграма.
19.00 Музычная пр-ма.
20.10 Госць Адзінкі.
20.20 Калыханка.
20.30 Навіны.
21.05 «Акварыум».
22.35 «Знакі часу».
23.30 Панарама.

### EUROSPORT
9.30 Веласпорт.
10.00 Конны спорт.
11.00 Футбол.
12.00 Тэніс.
16.20 Веласпорт.
18.00 Тэніс.
21.00 Веласпорт.
21.30 Бокс.
00.00 Тэніс.
01.00 Гольф.
02.00 Веласпорт.

# Пачуцці спелага яблыка

**Сёмага траўня ў галерэі «У Майстра» адкрылася юбілейная выстава Мікалая Скляра пад назвай Скляр-50".**

Як вынікае з гэтага наймення, гарадзенскаму мастаку споўнілася 50 гадоў. І менавіта ў ягоны дзень нараджэння адбылося падвоенае свята: Мікалай Скляр прымаў віншаванні з нагоды юбілея і адкрыцця асабістай выставы.

Гаспадыня галерэі Алена Пілічава метафарычна выказалася наконт самаадчування юбіляра, параўнаўшы ягоны святочны настрой з «адчуваннем спелага яблыка».

Спецыяліст па культуры з гарвыканкама Георгій Шэмет правёў недвухсэнсоўную паралель паміж творчасцю і юбілеем Скляра, адзначыўшы, што «раз мастак думае пра жанчын - значыць, ён яшчэ малады». Гэтае смелае меркаванне, напэўна, спраўкавала сама выстава, складзеная галоўным чынам з драўляных скульптур - выяваў сучасных Венер. Параўнанне з антычнай багіняй кахання напрошваецца само сабой: амаль усе скульптуры Мікалая Скляра абышліся без рук і галавы. Мастак гаворыць мінімумам сродкаў: абрысамі, грацыёзнай пластыкай «Сарамлівай» і «Аголенай», шчырай прыгажосцю «Ню».

Дзіва - скульптуры спадара Скляра не акцэнтуюць увагу менавіта на цялеснай прыгажосці. Нязвыклае мноства вываў «ню» трохі бянтэжыць, але выклікае толькі станоўчыя эмоцыі. Голыя жаночыя фігуры мастак апранаў у сваю ідэю: яны спалучаюць плоцевую прыцягальнасць і цноту. Як гэта атрымалася ў майстра - напэўна, застанецца таямніцай. Сама кампазіцыя выставы, што з'яднала язычніцкую прыгажосць мігатлівых жаночых фігур і скульптуры «Святы Іосіф», «Анёл», магла б шакіраваць некаторых прыхільнікаў маралі. Аднак усе «ню» Скляра ў сваёй дасканаласці падняліся на вышыню, недасягальную для брудных думак і гарманічна ўжыліся з іканаграфічнымі рысамі анёлаў.



Фрагмент выставы «Скляр-50»

Аднак мы, захопленыя скульптурай, не звяртаем увагі на іншыя складнікі вернісажу. Усім вядомыя керамічныя медалі Скляра займаюць асобнае месца. Яны ілюструюць гісторыю нашага горада за апошнія дзесяць гадоў і не забываюцца на дарагія ўсім беларусам сімвалы: паганскія лесуна, Маўку, хрысціянскія храмы, імёны Міцкевіча, Коласа, Купалы.

На стэндах размешчаны акварэлі Мікалая Скляра. І тут не абышлося без нечаканасцяў: далікатную і празрыстую акварэль мастак здолеў зрабіць сакавітай у сваіх пейзажных карцінах.

На вернісажы было шмат віншаванняў, граматы ад аддзелаў культуры, жарты ад сяброў Таварыства народных майстроў, і столькі кветак, што ўсе яны не маглі ўмясціцца нават у моцных руках майстра. Напэўна, яшчэ адно пачуццё спелага яблыка - паўната шчасця ад павагі і ўзаемаразумення сяброў і ўдалага творчага шляху. Паболей бы ўсім нам такіх яблыкаў!

# «Дэмакратыя для вас і вы для дэмакратыі»

**Менавіта пад такой назвай ў Гродне адбыўся адукацыйна-трэнінгавы семінар, арганізаваны абласной філіяй фонду імя Льва Сапегі і шчэцінскім (Польшча) фондам падтрымкі мясцовай дэмакратыі. Сумесны праект доўжыцца другі год.**

Асаблівасць двухдзённага семінару была ў тым, што яго самастойна рыхтавалі і праводзілі гарадзенскія трэнеры. Яны ж распрацавалі праграму, вызначылі ўдзельнікаў. Імі сталі сябры краязнаўчай суполкі «Дзедзічы», БСДГ, Маладога Фронту, Альянса імя Вітаўта Вялікага, школы маладога журналіста, школы правоў чалавека для моладзі рэгіянальнага праваабарончага цэнтра пры абласной грамадскай арганізацыі «Ратуша», хрысціянская моладзь, журналісты гарадскіх недзяржаўных газет.

Польскія госці насамрэч пераканаліся ў беларускай «гасціннасці». У Ваўкавыску было адмоўлена ў арэндзе памяшканняў. Давялося шукаць варыянты ў абласным цэнтры.

Прадстаўнік Фонду развіцця мясцовай дэмакратыі (FRDL, Шчэцін) пан Пшэмыслаў Фенрых падрабязна прааналізаваў дзеянні гарадзенскіх трэнераў і каардынатараў Таццяны Маліноўскай, Уладзіміра Хільмановіча, Міхаіла Варанца, Ганны Хамко ды іншых.

# Розныя нацыі - адзіны народ

**Гарадзенскае абласное грамадскае аб'яднанне «Ратуша» наладзіла сустрэчу за круглым сталом кіраўнікоў і актывістаў нацыянальна-культурных таварыстваў. Удзел прынялі прадстаўнікі абласнога цэнтра нямецкай культуры, культурна-асветнага таварыства украінцаў «Барвінак», абласнога аб'яднання яўрэйскай культуры імя Льва Найдуса, Саюза палякаў на Беларусі, абласнога грамадскага цэнтра татарскай культуры, а таксама армянскай і грэчаскай нацыянальных супольнасцяў.**

Гасцей шчыра прывітаў старшыня Каардынацыйнага камітэта «Гарадзенская ініцыятыва», сябра прэзідыума Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Домаш.

Выкладчык кафедры культуралогіі Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы Мікалай Бяспамятных распавёў пра маштабныя даследванні розных этнічных груп, якія жывуць у вобласці. Адзначыў, што найбольш асіміляванай аказалася тытульная нацыя - беларусы. Аднак назіраецца паступовы рост самасвядомасці і самаідэнтыфікацыі. Зараз вядзецца вывучэнне літоўскай грамады. Падвядзены вынікі маніторынгу польскай нацыянальнай супольнасці.

Пра дзейнасць, набыткі ды праблемы сваіх нацыянальных аб'яднанняў паведамілі Рыгор Фарманян, Дзмітрый Караў, Яніна Аляксяк, Рыгор Хасід, Аляксандр Гарданаў, Галіна Карыпідзі, Юзэф Пажэцкі. Адбыўся абмен думкамі наконт канкрэтнага паглыблення дзейнасці таварыстваў. Абмеркаваны магчымыя сумесныя праекты. Падтрымана прапанова мець свой рэгіянальны друкаваны бюлетэнь. Прызначаны тэрмін чарговай сустрэчы.

**Антон Лабовіч**

# Вышыўка і жывапіс гучаць у дуэце

**У абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці ідзе выстава твораў Анатоля і Марыі Закрэўскіх.**

Анатоль Закрэўскі паказаў выставу жывапісу, у якую ўвайшлі творы розных гадоў жыцця - ад часоў пачатку захаплення маляваннем да сённяшніх дзён. Пачаўшы свой жыццёвы шлях як музыкант, спадар Закрэўскі яшчэ ў дзяцінстве навучыўся іграць на розных музычных інструментах: губным і звычайным гармоніку, баяне. І цяпер жывапіс - не адзінае ягонае захапленне. Музычная адукацыя дазваляе працаваць канцэртмайстрам у студэнцкім клубе гарадзенскага сельгасінстытута.

Пейзажным жывапісам Анатоль Закрэўскі займаецца ўжо 20 гадоў. А ў мінулым годзе ён стаў лаўрэатам фальклорнага фестывалю «Беларусь - мая песня», атрымаўшы дыплом і грашовую прэмію. І для гарадзенскага аматара жывапісу гэты мастак знаёмы па выставах у зале гісторыка-археалагічнага музея ды іншых. Спецыяліст навукова-метадычнага цэнтра спадар Алесь Аўчыннікаў зрабіў смелае параўнанне, зазначыўшы, што «пейзажная манера Закрэўскага вельмі падобная да майстэрства Язэпа Драздовіча». Падабенства знакамітага беларускага мастака XIX стагоддзя і нашага сучасніка бачыцца ў замілаванні і любові да ўсяго, што трапляе на карціну. Цеплыня і пяшчота да роднай зямлі надае творам Анатоля Закрэўскага прыцягальнасць і казачную таемнасць. Улюбёнае вока мастака ўбірае ўсе заганы, усе хібы рэальнасці, каб на карціне звычайны масток праз Гараднічанку, Каложа, усім знаёмы драмтэатр захаплялі вытанчанай, дзесьці дададай пэндзлем мастака прыгажосцю.

На творчасць мастака паўплывалі жыццёвыя прычыны, у тым ліку несрыяльная, да прыкладу, дрэнны зрок. Магчыма, з гэтай прычыны па натхненне ён звяртаецца не да знешняга свету, а да крыніц унутранага адчування. Тут вытокі той казачнай таемнасці фары Вітаўта ды іншых мясцін Гарадзеншчыны, што жывуць у памяці, у сэрцы мастака.

Другая частка кампазіцыі ў НМЦ - вышыўка жонкі мастака Марыі Закрэўскай. Гэтае майстэрства ёй перадалося ад маці. Любімы занятак прывёў на фабрыку мастацкіх вырабаў «Сузор'е». Пасля закрыцця вытворчасці Марыя Закрэўская вышыўку не кінула, стала займацца ёю самастойна. У параўнанні з мужам, які ўжо 20 гадоў займаецца творчасцю, спадарыня Закрэўская толькі два гады таму стала прымаць удзел са сваімі вырабамі ў выставах і кірмашах. Аднак шматгадовае майстэрства гарантуе яе рушнікам, сурвэткам, абрусам вытанчаную прыгажосць і вышэйшую якасць. Падбор нітак, узораў робіць усе творы майстрыхі не проста прыгожымі, але шляхетна элегантнымі. Як вядома, нітка і іголка вышывальшчыцы пакідаюць не толькі каляровы след на тканіне. Яны занатоўваюць думкі, настрой, пажаданні майстрыхі. Творы Марыі Закрэўскай неяк самі па сабе ўздымаюць настрой гледача, дзеляцца душэўнай цеплынёй і прыгажосцю вышывальшчыцы.

**Алена Сіневіч**

# У Сіднэй - на Алімпіяду!

**Бюро Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі прыняло рашэнне аб правядзенні ў краіне алімпійскага конкурсу-віктарыны для юнакоў і дзяўчын 16—18 гадоў.**

Конкурс павінен пачацца ў чэрвені 1999 года і завершыцца праз 10 месяцаў — у сакавіку 2000 года. Яго удзельнікам трэба адказаць на пытанні аб гісторыі развіцця міжнароднага і беларускага алімпійскага руху, аб дасягненнях беларускіх спартсменаў на Алімпійскіх гульнях, а таксама паказаць веданне Аўстраліі, дзе пройдзе летняя Алімпіяда 2000 года. Будзе праведзена 10 тураў, у кожным з якіх неабходна адказаць на 10 пытанняў. Купоны з пытаннямі НАК мае намер прапанаваць да публікацыі газетам «Прессбол», «Спартыўная панарама», «Спорт-экспрэс у Беларусі» і «Советская Белоруссия».

Пераможцы конкурсу (адзін юнак і адна дзяўчына) атрымаюць бясплатныя пуцёўкі ў алімпійскі моладзевы лагер Сіднэя з 12 верасня па 4 кастрычніка 2000 года. Пералёт пераможцаў будзе аплочаны аргкамітэтам Алімпіяды, сутачныя (50 даляраў ЗША ў дзень) забяспечаць у роўных долях беларускі НАК і аўстралійская філія кампаніі «Макдональдс».

**Дзмітрый Уласаў**

# Беларускі хіт-парад

| N Выканаўца | Назва альбома | Фірма-вытворца |
|---|---|---|
| 1. НРМ | «Пашпарт грамадзяніна НРМ» | «Каўчэг» |
| 2. Віктар Шалкевіч | «Балады і рамансы» | «Тон-рэкардс» |
| 3. «Крыві» | «За туманам» | «Каўчэг» |
| 4. «Палац» | «Палац» | «Vigma» |
| 5. Даньчык | «Калядныя песні» | «БМА» |
| 6. «Deviation» | «Таталітарызм не пройдзе» | «БМА» |
| 7. «Жыгімонт Ваза» | «Der Drite Krieg» | «БМА» |
| 8. «Ulis» | «Краіна доўгай белае хмары» | «Каўчэг» |
| 9. Віктар Шалкевіч | «Правінцыя» | «БМА» |
| 10. Сокалаў-Воюш ды інш. | «Песні беларускіх бардаў» | «Каўчэг» |

**Хіт-парад складзены паводле замоваў на выставе беларускіх касет г.Гродна. Звяртацца па даведкі на нумар 72-11-83 (Андрэй).**

# Музей на Замкавай гары ў Горадні

**Гарадзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей - гэта буйнейшая навукова-даследчая і культурна-асветніцкая установа нашага Прынёманскага краю, якая ў 1995 годзе адзначыла сваё 75-годдзе.**

А пачыналася слаўная гісторыя музея ў 1920 годзе, калі ў сакавіку пры павятовым упраўленні ў Гродне ўтвараецца Камісія аховы помнікаў мастацтва і культуры. Адной з мэтаў гэтай камісіі было вядзенне збору матэрыялаў для стварэння музея. У склад яе ўвайшоў Юзэф Ёдкоўскі, мастацтвазнаўца і археолаг, будучы дырэктар музея. Ён нарадзіўся ў Гродне, і яго энтузіязму, па сутнасці, горад абавязаны адкрыццём музея.

Падзеі польска-савецкай вайны не спрыялі станаўленню музея, і толькі 9 снежня 1922 года была адкрыта яго першая экспазіцыя.

У 1924 годзе гарадзенскі магістрат вырашыў перавесці музей у Стары замак, і ў 1930-1931 гадах музейная экспазіцыя была створана ў пакоях Старога замка. Тут яна папоўнілася матэрыяламі пра жыццё і творчасць пісьменніцы Элізы Ажэшкі, археалагічнай і этнаграфічнай калекцыямі.

З восені 1939 года, пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР, у дзейнасці музея адбываюцца значныя змены. У гэты час ствараецца новая экспазіцыя музея. Размешчана яна была ў 12-ці залах і адлюстроўвала гісторыю Беларусі ад першабытна-абшчыннага ладу да 1940 года. Адкрыццё экспазіцыі адбылося 13 красавіка 1941 года.

У перыяд акупацыі Гродна нямецка-фашысцкімі захопнікамі некаторыя цікавыя калекцыі музея загінулі ці былі разрабаваны.

У верасні 1944 года пачалося работы па аднаўленні музея, які пастановай Савета Народных Камісараў БССР у 1945 годзе быў пераўтвораны ў Гарадзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей.

Пасля вайны на працягу пяці гадоў ішло аднаўленне музея, паралельна ствараліся часовыя выставы. Першая стацыянарная экспазіцыя адкрылася ў 1956 годзе. Яна апавядала пра гісторыю і прыроду Панямоння. З таго часу шмат што змянілася. Музей пашырыў свае ўладанні. Цяпер яму належыць не толькі Стары замак, але і каралеўскі палац XVIII стагоддзя, так званы Новы замак, а ў невялічкім доміку XVIII стагоддзя дзейнічае экспазіцыя, якая прысвечана гісторыі ўзнікнення Гарадніцы.

Мова музея - гэта рэчы, музейныя прадметы. Сапраўдным гонарам музея сталі яго археалагічныя і нумізматычныя калекцыі, зборы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і зброі, прыродазнаўчыя калекцыі.

У калектыва спеюць новыя задумы, планы. Спадзяемся, што тыя, хто наведвае музей, прыходзіць на прэзентацыі выставаў ці святочныя вечарыны, кірмашы народных майстроў ці на канцэрты, не пакідаюць яго сцены абыякавымі, а ўзбагачаюцца новымі ведамі пра Бацькаўшчыну, яе славутых сыноў, таленавітых народ.

Дзверы музея і яго філіялаў гасцінна адчынены кожны дзень, акрамя панядзелка, з 10 гадзін раніцы да 18 гадзін вечара. Шчыра запрашаем!

**Юрый Шастак**

# Беларусы «стрэлілі» ў дзевятку

**Вядома, што самая невыносная рэч - гэта невядомасць. Калі ад цябе ўжо нічога не залежыць і застаецца чакаць выраку так пераменлівага лёсу. Нешта падобнае перажыла хакейная дружына Беларусі на чэмпіянаце свету ў Нарвегіі.**

У заключны дзень папярэдняга раунду сітуацыя ў групе «D» не выглядала надта складанай. Усё, аднак, перавярнуў матч Беларусь - Украіна. Заявы трэнера «жоўта-блакітных» Анатоля Багданава пра тое, што яго каманда без сумневу адолее беларусаў, у сапраўднасці выявіліся звычайным блефам. Хаця ўжо на 15-й секундзе шайба трапіла ў сетку Мезіна, далей умовы дыктавалі толькі падначаленыя Анатоля Варывончыка. З сярэдзіны другога перыяду ўкраінцы зусім зламаліся, і толькі недаравальнае транжырства момантаў беларусамі ў заключнай трэці дазволіла захаваць не жахлівы лік. 6:1 - і больш чым прывідныя шанцы беларусаў трапіць у запаветную васьмёрку сталі абсалютна рэальнымі. Для гэтага было неабходна, каб у заключнай гульні падгрупы фіны перамаглі расейцаў - 1:0, 2:1, 3:2 ці з большай розніцай. Але віцэ-чэмпіёны свету, якім было раздадзена мора кампліментаў, відаць, заўчасна прымералі тогу пераможцаў. З расейскай камандай, у сваю чаргу, здарылася нечаканае пераўтварэнне. Тыя, хто ўключыў тэлевізары ў трэцім перыядзе, здзівіліся сапраўднаму - 3:0 - наперадзе была каманда Аляксандра Якушава. І толькі тады прадстаўнікі краіны суомі схамянуліся і прадэманстравалі сваю перавагу ў класе. Фіны вырвалі нічыю ўжо на «сцяжку», вярнуўшы сабе першае месца, якое «адплывала» - 3:3. Беларусам ад гэтага лягчэй стаць ужо не магло. У выніку лічыць шайбы не давялося: Фінляндыя - 5 ачкоў, Расія - 4, Беларусь - 3, Украіна - 0.

У другіх падгрупах усё завяршылася прасцей: мяркуемы пасьянс расклаўся без праблемаў. Кваліфікацыйныя чацвёркі склалі: Канада, Фінляндыя, ЗША, Швайцарыя («Е») і Швецыя, Чэхія, Расія, Славаччына («F»). Два туры змагання ў гэтым актэце спаборнікаў прынеслі ажно 6 (!) буйных перамогаў. Толькі два матчы з васьмі завяршыліся мінімальнай перавагай. Пры тым, настаў час сапраўдных метамарфозаў. Так славакі (самая непрадказальная каманда чэмпіянату) спярша далі сапраўдны бой шведам (1:2), але пасля пакорліва «злілі ваду» сваім суседзям-чэхам - 2:8. Тыя, у сваю чаргу, перад гэтым былі (што ўжо зусім нечакана) разгромлены маскоўцамі - 1:6.

Парадокс турнірнай сітуацыі ў падгрупе «F» быў у тым, што нават шведы, упэўнена «раскатаўшыя» расейцаў (4:1) перад апошнімі паядынкамі далёка не гарантавалі сабе месца ў паўфінале. «Трэ крунур» не мелі на гэтым першынстве такога зорнага складу, як на папярэднім, але выяўлялі дастаткова пераканаўчую гульню.

Па вялікаму рахунку, справядліва, што ўрэшце расейцы не трапілі ў паўфінал. Па сутнасці ў актэт іх «выцягнуў» Аляксей Яшын. Усё было ўжо ў руках маскоўцаў, але славакі знайшлі матывацыю і забралі ў іх ачко - 2:2. Пасля чаго чэхі вырвалі запаветную перамогу ў шведаў - 2:0.

А вось падгрупа «Е» «адстралялася» значна хутчэй. Канадыйцы і фіны здабылі па дзве вікторыі (над амерыканцамі, якія няўдала праводзяць апошнія турніры, і швайцарцамі, якія хіба не заслугоўвалі месца ў эліце). А ў асабістай сустрэчы фаварыты «разлічыліся» на першы-другі: скандынавы ўзялі верх - 4:2.



На лёдзе дружыны Беларусі і Латвіі

У «суцяшальным» турніры за 9-12 месцы беларусам была адведзена дамінуючая роля. Прыемна, што наша дружына пацвердзіла такое рэнамэ. Спярша Беларусь адолела гаспадароў чэмпіянату - 2:0 (шайбы закінулі Карачун і Цыплакоў), працягнуўшы з вікінгамі «футбольную» серыю. Сцэнарыі спатканняў з аўстрыякамі - 3:2 (Лявонцьеў, Кавалёў, Калюжны) і латвійцамі - 2:1 (В.Панкоў, Цыплакоў) былі вельмі падобнымі. Беларусы даводзілі сваю перавагу да лагічнага ўвасаблення (3:0 і 2:0), а ў трэціх перыядах, хаця і не без праблемаў, утрымлівалі станоўчы вынік. У суме - 6 ачкоў і прыстойнае «чыстае» 9-е месца.

Паўфінальныя двухраўндавыя баталіі нямала паказыталі нервы зацікаўленым. Чэхі пачалі з паразы канадыйцам 1:2, але назаўтра рэваншаваліся - 6:4. Авертайм пераможцу не выявіў, і супернікам давялося выконваць буліты - фартуна выбрала славянаў. Не меншай зацятасцю вызначыўся двубой скандынаваў. Адвечныя супернікі летась сустракаліся ў фінале, дзе верх узялі шведы. Зараз суомі разлічыліся па старых рахунках. Першы матч фіны выйгралі - 3:1. Другое спатканне прынесла лакальны поспех «трэ крунур» - 2:1, але ў дадатковым перыядзе вырашальную шайбу закінулі «белаблакітныя».

У матчы за «бронзу» крыху мацнейшымі былі шведы - 3:2 у Канады («кляновых лістоў» звычайна не цікавяць месцы за межамі фіналу).

Фінальныя паядынкі былі больш «жывымі», чым мінулагоднія. Першы выйгралі алімпійскія чэмпіёны - чэхі - 3:1. У другой гульні назіралася адчувальная перавага фінаў - 4:1. А вось у авертайме ўсё ізноў перавярнулася. Чэхі дзейнічалі больш упэўнена - за тры з паловай хвіліны да латарэі Ян Главач з пражскай «Спарты» забіў «залатую» шайбу. І свет атрымаў новага чэмпіёна. У хакейны летапіс занесены яшчэ адзін поспех дружыны Івана Глінкі.

**Хельмут Каменскі**

# «Нёман» цячэ з поўдня на поўнач

**Рух футбольнага «Нёмана» ў 9-м чэмпіянаце краіны вектарна нагадвае цячэнне аднайменнай ракі. Саступіўшы ў самым першым туры чэмпіёну, гарадзенцы выдалі пасля серыю з пяці матчаў без паразаў (сюды ўклініўся, праўда, кубкавы пралёт пасля рандэву з «Белшынай»). Як следства - прасоўванне ў турнірнай табліцы на «поўнач».**

У шостым туры нёманцы гасцявалі ў Асіповічах, дзе змаглі адолець мясцовую «Свіслач-Дах» - 1:0. Адзіны мяч на 74-й хвіліне забіў Сяргей Нікулін (першы гол за «Нёман»). Заўважым, што дэбютанты лігі прайгралі ўсе шэсць сустрэчаў. Так што падвышаць значэнне першай перамогі «Нёмана» ў гасцях не трэба. Супернікамі гарадзенцаў на гэтым турнірным адрэзку былі спрэс аўтсайдары чэмпіянату, далей будзе куды цяжэй. З іншага боку, «Нёман» дзеліць шостае месца, і трэба прызнаць працу Сяргея Саладоўнікава на гэтым этапе пасяховай. На большае, пакуль, нельга было й спадзявацца. Вышэйсказанае можна адрасаваць і «Лідзе». У падначаленых Івана Прохарава вельмі цяжкі графік першай паловы круга. Адсюль заканамернасць паразы ў справаздачным туры лідару першынства - барысаўскаму БАТЭ - 0:4. Галоўная задача лідчукоў - браць «сваё». Верыцца, што камандзе не будзе пагражаць чарговае развітанне з элітарнай лігай.

Шостаму туру папярэднічалі некалькі гучных «працэсаў». Бацькі гомельскага футболу адправілі ў адстаўку Валерыя Яначкіна (добра знаёмага многім гарадзенцам яшчэ па працы з «Хімікам»). Валерый Патапавіч вядомы сваімі экспансіўнымі выказваннямі і бязлітаснымі характарыстыкамі: ці то падначаленых футбалістаў, ці то кіраўнікоў. Пасля чарговых эскападаў у інтэрв'ю газетам, начальства не вытрымала. Шкада толькі будзе, калі з нашага футбольнага далягляду знікне такая каларытная фігура.

Спадкаемцам Яначкіна стаў віцеблянін Вячаслаў Акшаеў, які прыехаў у міжсезонне на берагі Сожа з цэлай кампаніяй сваіх выхаванцаў. Першы матч пад кіраўніцтвам новага галоўнага «Гомель» дома выйграў 1:0 (за тры хвіліны да завяршэння вызначыўся Віктар Барэль).

А ў менскім «Тарпеда» - МАЗ чарговы «ператрус» складу. Схільны да радыкальных зменаў Анатоль Юрэвіч выставіў на трансфер такіх майстроў, як Сяргей Яромка(!), Уладзімір Канавалаў, Міхаіл Мархель. У аўтазаводцаў зараз багата праблемаў (у тым ліку траўмы Конанава, Маёрава, Юрыя Свіркова). Так што не дзіва, што менчукі саступілі ў Віцебску - 0:2 (дублем «стрэліў» Алешчанка). Іншыя матчы 6-га туру прынеслі наступныя вынікі: «Тарпеда-Кадзіна» - «Славія» - 0:0, «Нафтан-Дэвон» - «Днепр-Трансмаш» - 1:2, «Дынама» Бр - «Белшына» - 2:0, «Маладэчна» - «Дынама» Мн - 1:2.

**Турнірная табліца**

| | ачкі | мячы |
|---|---|---|
| 1. БАТЭ | 16 | 23-4 |
| 2. Днепр-Трансмаш | 14 | 11-4 |
| 3. «Гомель» | 14 | 8-3 |
| 4. «Славія» | 13 | 9-2 |
| 5. «Дынама» Бр | 13 | 10-4 |
| 6. «Нёман-Белкард» | 11 | 8-4 |
| 7. «Лакаматыў-96» | 11 | 8-4 |
| 8. «Дынама» Мн | 10 | 7-6 |
| 9. «Шахцёр» | 9 | 14-8 |
| 10. «Белшына» | 8 | 9-10 |
| 11. «Ліда» | 7 | 8-10 |
| 12. «Тарпеда» -МАЗ | 3 | 6-11 |
| 13. «Маладэчна» | 2 | 4-11 |
| 14. Тарпеда-Кадзіна | 2 | 3-14 |
| 15. «Нафтан-Дэвон» | 1 | 4-20 |
| 16. «Свіслач-Дах» | 0 | 2-19 |

Спіс лепшых бамбардыраў ачольвае барысавец Кутузаў - 6 галоў, далей ідуць Ганчарык (таксама БАТЭ) і Ціхончык («Шахцёр») - па 5, Алешчанка («Лакаматыў-96») - 4.

Наступны тур адбудзецца ў пятніцу - 21 траўня. Гарадзенцы прымаюць гомельцаў, а «Ліда» паедзе ў Салігорск. Зараз у чэмпіянаце наступіў невялікі тайм-аўт. Моладзевая і нацыянальная дружыны Беларусі правядуць спарынгавыя матчы з расейскімі зборнымі.

**Уладзімір Хільмановіч**

## З народнага гумару

### За ліверпай

### За лівернай

У армянскага радыё пытаюцца:

- Ці не скажаце, якое цяпер жыццё ў Беларусі?
- О-о-о!.. Наш карэспандэнт паведаміў нам, што там цяпер усе як адзін - мільянеры! Вось толькі незразумела, чаму амаль усе стаяць у чарзе за лівернай, а ад каўбасы іншых гатункаў аж насы адварочваюць...

### Рынкавы сацыялізм

- Кажуць, што ў Беларусі будуюць рынкавы сацыялізм. Што гэта такое?
- Рынкавы сацыялізм - гэта тое самае, што дойны конь. Або жарэбны бык. Ці цяжарны мужык.

### У чым розніца?

Пытанне армянскага радыё:
- У чым розніца паміж Нью-Ёркам і Менскам?

Адказ:
- У Нью-Ёрку ёсць адна беларуская школа, а ў Менску - ніводнай.

### Ну, як жывеш?

Адказы на пытанне «Ну, як жывеш?»:
- І не пытайся!..
- Ад ліха ціха, а дабра не чуваць.
- Сёння горш, чым учора, але лепей, чым заўтра.
- Як Ленін у маўзалеі: не жывы, а не закопваюць.

### Няўжо гэта Маркс?!

У вышэйшых навучальных установах за савецкім часам аж трэцяя частка лекцыйных і практычных заняткаў адводзілася на вывучэнне асноваў марксізму-ленінізму, гісторыі КПСС, марксісцка-ленінскай філасофіі, навуковага камунізму, палітэканоміі і сацыялізму і г.д. На кожных занятках студэнты толькі і чулі: Маркс, Энгельс, Ленін...

І вось аднойчы студэнт на дзяржаўных выпускных экзаменах па біялогіі так слаба адказваў на білет, што члены камісіі хацелі ўжо ставіць яму самую кепскую адзнаку. Але старшыня дзяржаўнай камісіі пашкадаваў хлопца і, спрабуючы выратаваць яго, задаў лёгкае дадатковае пытанне. Паказваючы рукой на муляжныя шкілеты мужчыны і жанчыны, прагаварыў: «Паглядзіце і адкажыце: чые гэта шкілеты?».

Той доўга разглядваў іх і ў профіль, і ў анфас, і мацаў рукою, і нюхаў. Але маўчаў.

Старшыня камісіі не вытрываў і, ківаючы галавой, журботна прамовіў: «І чаму ж вас толькі пяць гадоў вучылі?!»

- А-а-а! - здагадаўся студэнт, узрадаваны і ўдзячны. - Але няўжо ж гэта Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс?!

### Новы гатунак гарэлкі

У Расіі, кажуць, сталі выпускаць гарэлку пад назвай «Ленін». Вельмі ж дзейнічае! Пасля першай шклянкі адразу пачынаеш картавіць. Пасля другой - ідзеш надзейным ленінскім шляхам: крок наперад, два крокі назад. Пасля трэцяй - хочацца ўзабрацца на браневік і прыкрычаць якія-небудзь тэзісы - красавіцкія, жнівеньскія ці кастрычніцкія.

### Знаем мы вас!

Паехаў кіраўнік-дырэктар адной лацінаамерыканскай краіны з візітам у Ізраіль. Праз два дні адтуль у сталіцу - тэлеграма: «З вялікім шкадаваннем паведамляем, што сёння раптоўна памёр ваш кіраўнік. Калі вы не супраць, мы можам пахаваць яго на нашай свяшчэннай, біблейскай ізраільскай зямлі».

А ім тут жа ў адказ: «Ні ў якім разе! І не думайце! Знаем мы вас! Вы ўжо пахавалі аднаго 2000 гадоў таму, а ён праз тры дні ўваскрос».

### «Россия - родина слонов»

У Парыжы праходзіў міжнародны сімпозіум заолагаў. На працягу трох дзён шырока абмяркоўвалася салідная манаграфія пра муху цэцэ. Пад канец нарады выступіў індыйскі вучоны: «Якіх вялікіх поспехаў дасягнулі мы ў заалогіі! - сказаў ён. - Нават пра маленькую муху цэцэ маем такую вялікую, капітальную працу! А вось пра слана да гэтага часу няма амаль нічога грунтоўнага. Прапаную вучоным тых нямногіх краін, дзе жывуць сланы, папрацаваць як след, і мы б на чарговай нарадзе праз тры гады абмеркавалі гэтую праблему». Прапанова была ўхвалена.

Праз тры гады зноў сабраўся сімпозіум. Распачынаючы яго, старшыня аб'явіў, што першымі просяць выступіць савецкія вучоныя. Усе крыху здзівіліся, ведаючы, што ў Савецкім Саюзе сланы толькі ў заапарках.

І вось на сцэну выходзіць савецкая дэлегацыя - сем чалавек на чале з сакратаром партыйнай арганізацыі. У кожнага ў руках - таўсценная кніга з залацістым загалоўкам на вокладцы. Партыйны сакратар патлумачыў, што іх вялізная праца пісалася некалькімі навуковымі інстытутамі і складаецца з шасці тамоў. «Я, - гаварыў ён, - буду называць тамы, а вучоныя па чарзе будуць дэманстраваць іх».

Першы том называецца «Уводзіны ў сланазнаўства» (па-руску гэта «Введение в слоноведение»).

Другі том - «Класікі марксізму-ленінізму пра сланоў».

Трэці том - «Сланы пры сацыялізме».

Чацвёрты том - «Сланы пры камунізме».

Пяты том - «Россия - родина слонов!».

Шосты том - філасофскія развагі на тэму: «А ці былі сланы наогул?»

### Газеты

Сустрэліся на пошце два знаёмыя мужчыны. Адзін здзіўлена пытаецца ў другога:

- Ты і цяпер яшчэ выпісваеш гэтыя дзяржаўныя газеты?
- А што я, па-твойму, павінен хадзіць у туалет з рэпрадуктарам?!

**Запісаў Іван Лепешаў**

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Замова 2 399 Наклад 4 804 Нумар падпісаны да друку ў 16.00 17.05.1999 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадастаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - два умоўныя друкаваныя аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: *Таццяна Лучыц*
Камп'ютарная вёрстка: *Аляксей Салей*